# Polacak

Published with the financial support of the parish
Mother of God of Zyrovicy,
Cleveland, Ohio, USA.



Прозьвішчы падпішчыкаў і ахвярадаўцаў рэдакцыя
будзе публікаваць у часопісе.

All correspondence should be addressed to:
M.Bielamuk
10915 Lake Rd., Cleveland, Oh. 44102, USA.
Tel. (216) 651-3451





*Пад бел-чырвона-белым сьцягам*



*Згукі Бацькаўшчыны*



*Наша гісторыя*



*Памяць зямлі*



*Роднае слова*



**Андрэй Карпук.** Мастацкая распрацоўка макета вокладкі, шрыфтоў і заставак рубрык.
**Мікола Рыжы**. Плякат Аркадзь Смоліч

На першай бачынцы вокладкі: **Міхаіл Басалыга.** Слуцкі князь Аляксандр Уладзіміравіч Алелька

На чацьвёртай бачынцы вокладкі: **Яўген Ціхановіч.** З Новым 1992 годам!

# Слуцкім  гэроям.

Не адзін яшчэ лістапад
Адшуміць у нябыт жоўтым лістам,
Будуць вёсны наведваць сад
З салаўём, шчабяткім, галасістым.

Над магіламі тых, што ішлі
У бой няроўны, з думай аб волі,
Навяваць муць сон кавылі,
Ды вятры нэ ўмоўкнуць скуголіць.

Прыйдзе хтось, курганы ўзарэ,
Каб рассыпаць увесну зярняты,
Спатыкнецца сашнік на „ўрэзк",
На аскепках іржавых гранаты.

Склікае сход гаспадар зямлі.
Там, дзе з воямі змоўкла і зброя,
Шугане увысь абэліск
З двума словамі: „Слуцкім гэроям".

Міхась Кавыль.



# Эпіцэнтр, што прывёў Беларусь да свабоды

Аляксандр Мікалайчанка

У Менску ёсьць чуйны барометр палітычнага жыцьця Беларусі. Не, гэта не Дом Ураду, дзе засядае парлямэнт — там больш балбатні і дробных спрэчак, і не нашыя буйнейшыя навуковыя інстытуты — студэнцтва нашае спіць, не адгукаецца на падзеі, і не Камароўскі базар, дзе цэны растуць з кожнай хвілінай. Гэта былая плошча Леніна, якая сёньня носіць найменьне плошча Рэспублікі. На працягу трох апошніх гадоў Плошча патрабавала ад тых, хто мае канкрэтную ўладу, прыняцьця праграмы па ліквідацыі паступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, законаў па адраджэньню нацыянальнай культуры і мовы, адстаўкі беларускага «генсека» Яфрэма Сакалова і старшыні Вярхоўнага Савета Мікалая Дземянцея. Людзі плошчы гнеўна асудзілі разгул рэакцыйнай ваеншчыны ў Тбілісі, Баку і Вільні, выступілі супроць падпісаньня нова-агароўскага саюзнага пагадненьня. Плошча, якую партакратыя ахрысьціла натоўпам, сёлетнім красавіком вывела на палітычную арэну рабочых Менска, Воршы, Гомеля ды іншых гарадоў рэспублікі, што заявілі свой пратэст супроць палітыкі надвышэньняў цэнаў, выказаліся за дэпартызацыю прадпрыемстваў, дзяржаўных, судовых, навучальных і іншых установаў.

Плошча паказала, што яна—голас беларускага народу, што яна сама народ, калі пачынаўся яе гістарычны тыдзень: з 19 па 25 жніўня 1991 года. Але пра ўсё - па парадку.

**19 жніўня**. Раніцай гэтага дня я паехаў у Дом друку, нічога ня ведаючы пра маскоўскія падзеі, каб распачаць выпуск чарговага нумара газэты «Добры вечар». Ужо ў цягніку мятро я заўважыў такое, чаго раней не бачыў. Менчукі, заўжды ўсьмешлівыя і вясёлыя раптам сьцішыліся, перамаўляліся напаўголаса, некаторыя азіраліся па баках. Да слыху даляктала абрэвіятура «ГКЧП», фразы: «Гарбачоў захварэў і ня можа кіраваць дзяржавай....Улада — у Янаева, Пугі, Язава і Кручкова...» Я зразумеў: здарыўся — дзяржаўны пераварот, на чале ўнутранай імпэрыі — хунта. Калі прыйшоў у друкарню, па радыё прагучала першая пастанова «ГКПЧ». Забараняліся шэсьці, мітынгі, дэманстрацыі, штрайкі... Уводзілася цэнзура для сродкаў масавай інфармацыі... Заклікалася мацаваць дысьцыпліну... Аб'яўлялася вяршэнства Канстытуцыі СССР па ўсёй краіне...

А вось і канкрэтны «падарунак»: першая паласа «Добрага вечара» поўнасьцю перавёрстваецца — трэба друкаваць дакумэнты «гекачэпістаў». Нумар затрымліваецца. У рэдакцыйным «Пасьляслоўі» адзначаецца, што ўлада мянянецца, а Гарбачоў адхілены ад сваёй пасады.

Вечарам іду на Плошчу. Тут ужо групкамі тоўпяцца людзі вакол дэпутатаў БНФ у Вярхоўным Савеце і дэпутатаў «Дэмакратычнай плыні» зь Менскага гарсавету. Ім даводзіцца адказваць на пытаньні безь перапынку. Усё зразумела: «ГКПЧ»— дыктатура, якая ставіць за мэту адкінуць усе народы да сталінска-брэжнеўскай мадэлі таталітарызму. Дэпутаты распавядаюць, што іхняя спроба пагутарыць зь Мікалаем Дземянцеем,

каб тэрмінова склікаць нечарговую сэсію ВС БССР ды асудзіць хунту, падтрымкі ў старшыні Вярхоўнага Савета не атрымала. Дэпутаты зьбіраюць подпісы сваіх калег з патрабаваньнем тэрмінова склікаць нечарговыя сэсіі Вярхоўнага Савета і Менскага гарадзкога Савета. Позна ўвечары засядае сойм БНФ разам зь лідэрамі дэмакратычных партыяў, дзе вырашана падтрымаць заклік Барыса Ельцына і распачаць штрайк.

На вуліцах пакуль што спакойна — танкаў не бачна...

**20 жніўня**. Рэдакцыя «Добрага вечара» рашае змагацца з хунтай. Наш «галава» — Міхась Расолька дае мне тэрміновае даручэньне: зрабіць бліц-інтэрвью, каб высьветліць адносіны людзей да апошніх падзей у СССР. Меркаваньні цікавыя. Большасьць менчукоў не прымаюць дыктатуры, асуджаюць дзяржаўны пераварот, патрабуюць, каб па тэлебачаньні перад народам выступіў сам Гарбачоў. Толькі адзін вэтэран вайны поўнасьцю падтрымаў надзвычайны камітэт і зьедліва пацікавіўся ў рэпарцёра: ці хутка зачыняць нашую газэту?

Ранішняя навіна: не выйшла маладзёжная газэта «Знамя юности», вядомая агульнадэмакратычнымі поглядамі.

Гарадзкія дэпутаты ня здолелі сабраць прэзыдыюм або сэсію. Але ад імя ініцыятыўнай групы ўжо зроблены зварот да менчукоў пра непрызнаньне «ГКЧП». У дакумэнце сказана: «...змоўніцкімі мэтадамі самазванны камітэт адхіліў ад улады законна абранага Прэзыдэнта Гарбачова».

Ня веру вачам: група журналістаў газэты «Звязда» выступіла з заявай супраць хунты...

У друку—зварот да беларускага народу ў Прэзыдыюм ВС БССР і Заява ЦК КПБ. Першы дакумэнт заклікае народ да спакою, дысьцыпліны, абяцае, што ў Беларусі будуць дзейнічаць толькі законы Канстытуцыі рэспублікі. Але ад «ГКЧП» не адмяжоўваецца. Другі—фактычна падтрымлівае надзвычайнікаў, амаль поўнасьцю цытуючы кавалкі іхніх заяваў ды пастановаў, у закамуфляваным выглядзе загадвае сваім актывістам тлумачыць насельніцтву дзейнасьць самазванцаў.

Вечарам а 18-й гадзіне — мітынг на Плошчы. Запісваюся на выступ у сп.Юрыя Хадыкі. Народныя дэпутаты Беларусі Зянон Пазьняк, Віктар Радамысльскі (а. Віктар), Сяргей Антончык, Пятро Садоўскі, Лявон Зданевіч і інш. выкрываюць таталітарысцкую сутнасьць перавароту, здрадніцтва Старшыні Вярхоўнага Савета БССР Мікалая Дземянцея і першага сакратара ЦК КПБ Анатоля Малафеева, заклікаюць народ (а людзей сюды сабралася некалькі дзесяткаў тысяч) да штрайку, да яднаньня на адзіной плятформе—плятформе незалежнасьці Беларусі й абароны дэмакратыі. Натхніла выступленьне вайскоўца, які паведаміў, што створаны саюз афіцэраў, які паставіў за мэту супрацьдзейнічаць хунце, зрабіць усё магчымае, каб абараніць маладую беларускую дэмакратыю.

Тут абвяшчаюцца паведамленьні з Масквы, што на бок абаронцаў Белага дому пераходзіць усё больш і больш вайскоўцаў з Таманскай і Кантэміраўскай дывізіяў ПДВ, міліцэйскіх падразьдзяленьняў, што хунта не адважылася ўзяць пад кантроль Санкт-Пецярбург, дзе абстаноўку кантралюе мэр горада Сабчак.

Мне не ўдаецца сказаць слова на мітынгу—зашмат людзей выступіла перада мной. Але ўпэўненасьць, што хунта вось-вось «дасьць дуба» не пакідае мяне

**21 жніўня**. Раніцай купіў газэту «Свабода». Пад загалоўкам «Апазыцыя патрабуе скліканьня сэсіі» друкуецца дыктафонны запіс размовы між дэпутатамі ад апазыцыі і Мікалаем Дземянцэм.

Запіс зроблены 19 жніўня, калі тыя завіталі да яго і запатрабавалі скліканьня нечарговай сэсіі. На ўсякі выпадак занатоўваю цытаты з адказаў Дземянцея:

«Вы з Гарбачовым сустракаліся? Вы ведаеце, чаму нарадзілася ў яго гэтая заява?... Гарбачоў прыйшоў за шэсьць гадоў да цяжкага становішча, у якім ён і заўсёды быў. Гэта група, а дакладней сказаць —Янаеў, былі зь ім разам, гэтая заява нарадзілася разам з Гарбачовым. Па стане ягонага здароўя...»

«Яшчэ раз паўтараю: Гарбачоў псыхалягічна вычарпаў «сябе». Ён ня ведае, што далей яму рабіць. Ён кажа: я далей не магу, давайце думаць разам. Вось і давялося па Канстытуцыі часова выканаць абавязкі Янаеву. Прэзыдэнт за суткі да гэтага пайшоў у адстаўку... Вам няма патрэбы зьбіраць сэсію. Гарбачоў сам за сябе вырашыў. Ён сыйшоў, а жыцьцё будзе працягвацца. Нам, беларусам, ніхто «не пагражае і ня трэба падбухторваць людзей». Наконт выкананьня распараджэньняў Янаева: «А што Вы хочаце, каб я выконваў?»

Вечарам — мітынг на Плошчы. Зноў шматысячны натоўп. Мы ўжо ведаем, што начная атака бронетэхнікі адбітая абаронцамі Белага дома. Але трое маладых масквічоў загінулі. Выступаюць народныя дэпутаты Беларусі. Прамовы палымяныя, асабліва—а.Віктара, які характарызуе пераварот як знак таго, што эры Антыхрыста на зямлі прыходзіць канец...

Я стаю ў групе тых, хто рыхтуецца выступаць, нечакана да мяне зьвяртаецца Зянон Пазьняк: «Ты добра ведаеш журналіста Дзімітрыя Маліноўскага? Што гэта за чалавек?» «Дэмакратычны журналіст. Нармальны чалавек»,— адказваю. «Прыстойны, прыстойны журналіст», — нехта гаворыць з-за маёй сьпіны.

Аказалася, пытаньне было задана не дарэмна. Спадар Зянон, калі ўзыйшоў на трыбуну, зачытаў запіску Дзімы Маліноўскага: «З Гарбачовым наладжана сувязь. Ён цудоўна сябе адчувае. Прэзыдэнт асуджае хунту, да яго ў Крым выляцела дэпутацыя ВС РСФСР на чале зь віцэ-прэзыдэнтам Расіі Руцкім...» Упершыню за гэтыя дні стала лягчэй дыхаць Людзі абдымаюцца. Цалуюць адзін аднаго.

**22 жніўня**. Дзень перамогі над хунтай. Увечары на мітынгу былі лёзунгі: «Далоў КПБ!», «Жыве Беларусь!» дайшла чарга і да мяне. Я ад імя дэмакратычных журналістаў павіншаваў людзей зь перамогай над дыктатурай і запатрабаваў нацыяналізацыю выдавецтва ЦК КПБ, абароны беларускага друкаванага слова ад рыначнай каньюктуры і палітычных амбіцыяў бальшавіцкіх партфункцыянераў. Свой выступ завяршыў вершам, напісаным у ноч з 19 на 20 жніўня:

*Калі ваўкі гуртуюцца ў зграю,*
*Спакою, чалавеча, не шукай.*
*Калі Вандэя галаву ўздымае.*
*Сьлязам сірочым ліцца цераз край.*
*Ёй напляваць, што ёсьць Мараль і Права,*
*Што ёсьць Народ і Сувэрэнітэт...*
*У гэтай самазванае аравы*
*Паўсюду сьлед злачынны і крывавы:*
*Баку, Тбілісі, Вільня, Прэзыдэнт!*
*Галоснасьць не шануюць прайдзісьветы—*
*Яна ім, як ў лесе барана.*
*І вось ужо зачынены газэты,*
*Ў якіх не тыражуецца мана...*
*І ўжо няма расейскага канала...*
*І хлусяць аглядальнікі ЦэТэ...*
*Ды сьвішча па-над намі паганяла—*
*Кнтут бальшавіцкі ў Пугавай руцэ.*
*І нас яна за горла хутка схопіць,*
*І нам зальле сьвінцом гарачым рот,*
*Калі ўсёй грамадой не скажам: хопіць!*
*Калі не аб'яднаемся ў фронт.*
*Калі за лёс дзяцей, жанок ды ўнукаў.*
*За праўды лёс і Роднае зямлі*
*Нам будзе даражэй прымус-прынука —*
*Ярмо сканструявана ў Крамлі.*

**24 жніўня.** Мы, актывісты БНФ, зноў на плошчы з дзевяці гадзін раніцы. Людзі паступова запаўняюць пляц, у цэнтры якога майструюць трыбуну. У зале пасяджэньняў Вярхоўнага Савета дэпутаты

вядуць бескампрамісны бой, каб на паве стку дня былі вынесены надзённыя пытаньні: аб палітычным моманце ў краіне й адносінах да саюзнага дагавора.

Дэпутацкая апазыцыя настойвае на прыцягненьні да палітычнай і юрыдычнай адказнасьці тых, хто сваёй дзейнасьцю або бязьдзеяньнем патураў хунце. Яна патрабуе спыніць дзейнасьць КПСС—КПБ, надаць поўную незалежнасьць Беларусі...Таго-ж патрабуюць і маніфэстан ты на плошчы. Выбіраецца дэлегацыя ад мінчан у ВС БССР, каб выказаць свае патрабаваньні...

Што рабіць далей? Чым яшчэ дапама гчы нашым дэпутатам? 3 гэтымі пытань нямі падыходжу да сяброў сойму БНФ. Мастак Мікола Купава прапаноўвае ства рыць некалькі груп, кожная з плякатамі «Усе на плошчу Леніна!», пройдуць па вакзале, каля ГУМа, станцыі мятро на полошчы Якуба Коласа, каб запрасіць мінчан на пляц. Знаходзім хлапцаў зь бел-чырвона-белымі сьцягамі, яны бяруць плякаты, і ўсе разам адпраўляемся на стратэгічныя аб'екты. Адну з груп па праспекту вяду да ГУМа. Па дарозе да нас далучаюцца людзі. Цяпер не страш ныя правакацыі прыхільнікаў партакратыі. Міліцыя захоўвае нэйтралітэт. Па дарозе па-руску і беларуску абвяшчаем:

—Мінчане! Каму сорамна жыць пад уладай беларускіх партакратаў, здрадзі ўшых Канстытуцыі, — усе на плошчу Леніна! Далоў Дземянцея, далоў Малафеева й яго здрадніцкі ЦК! Усе на плошчу!

Людзі падыходзяць да нас, цікавяцца. Паказваем «Народную газэту» за 24, дзе надрукаваны артыкул, як народны дэ путат СССР А.Малафееў быў адзіным чалавекам, які на Прэзыдыюме ВС БССР устрымаўся ад асуджэньня «гекачэпістаў»

Працуем плённа. Многія з сустрэчных адпраўляюцца на пляц, каб падтрымаць дэпутатаў. Праз дзьве гадзіны вяр таемся на плошчу. Запісваюся ў ства раемую нацыянальную гвардыю. І тут-жа праца: ахоўваць ад натоўпу дэпутатаўпартакратаў, якія выходзілі на абед, бо люд разгневаны, можа кінуцца на іх.

Але ўсіх абараніць немагчыма, занад та іх шмат, як караедаў на дрэве. Людзі прарваліся праз ланцуг да цэкоўскага сакратара В.Ціхіні і наплявалі таму ў твар...

Сэсія чуе плошчу. Заптарабаваў сувэрэнітэту і незалежнасьці для Беларусі наш прэм'ер Кебіч. Шматлікія дэпутатыкамуністы выходзяць з КПСС і Малафееву выказацца не даюць. Дэпутаты проста сьцягваюць яго з трыбуны: ніхто не жадае слухаць паслугача хунты. Я пераканаўся ў адным: ніколі КПБ не губляла так свой аўтарытэт. Дзень для мяне завяршаецца а 9 гадзіне вечара. Камандзір нацыянальнай гвардыі папярэджвае пра тое, каб кожны з нас заўтра быў у сваёй роце а 9 гадзіне раніцы.

**25 жніўня**. Напярэдані ў праграме «Час» прагучала вядомая заява Прэзыдэнта СССР аб зьняцьці зь сябе поўнамоцтваў Генсека КПСС, яго прапанова аб самароспуску партыі, указ аб дэпартыза цыі дзяржаўных структур і аб маёмасьці КПСС. Таму раніцай наш узвод накіроў ваюць на ахову будынка ЦК КПБ з боку архіва. Мінгарсавет ужо прыняў рашэнь не апячатаць партыйныя будынкі. Мы накіроўваемся ахоўваць ЦК КПБ.

А ў залі пасяджэньняў ВС БССР адбываецца нешта неверагоднае: адно за адным прымаюць сэнсацыйныя рашэньні: аб часовым спыненьні дзейнасьці КПБ, дэпартызацыі, перадачы партыйнай маёмасьці дзяржаве. Не дапамагае А.Малафееву й яго заява аб выхадзе КПБ з КПСС. Ідзе ў адстаўку Дземяньцей.

Нацыянальныя гвардзейцы крычаць «Жыве Беларусь!», паціскаюць адзін аднаму рукі.

Перад галоўным уваходам у будынак ЦК сталіцы ў вянках труна з партрэтам Маркса, адно вока якога перавязана чорнай стужкай, нібыта пірата. А на «пацешным плякаце» выведзена: «Слава КПСС!» У труну кідаюць капейкі і нават рублі. Людзі весела падыходзяць, сьмяюцца і жартуюць. Што-ж сапраўды, за 73 гады нечалавечага экспэрымента ўсім астабрыдла жыць пад уладай гэтай злавеснай сілы...

Раптам каля будынка ЦК КПБ спыняецца «Волга». Зь яе выходзіць... Яфрэм Сакалоў, былы беларускі генсек. Ён, нічога не разумеючы, быццам зваліўся з іншай планеты, глядзіць разгублена на труну. Аказваецца, Сакалоў прыехаў з адпачынку і нічога тоўкам ня ведае. Людзі пытаюцца яго пра Чарнобыль, сацыяльна-эканамічнае становішча рэспублікі. Сакалоў нешта гаворыць, апраўдваецца і спяшаецца разам з жанчынай сесьці ў «Волгу». Людзі плююць усьлед машыне, нібыта нячыстай сіле, а ў позірках столькі адкрытай пагарды...

І ў гэты час радыё даносіць да нас паведамленьне з сэсіі: Дэкларацыі Вярхоўнага Савета аб дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі нададзеная канстытуцыйная сіла. Мы кідаемся ў абдымкі адзін да аднаго: ніколі на душы не было так лёгка.

Вяртаемся на плошчу. Тут пачынаецца мітынг. Ад імя дэмакратычных журналістаў рэспублікі я віншую ўсіх з перамогай. Больш нам ніхто і ніколі не заткне глоткі. Зьяўляюцца дэпутаты: Зянон Пазьняк, Лявон Баршэўскі, Лявон Зданевіч, Уладзімір Кавалёнак, Галіна Сямдзянава, Уладзімір Заблоцкі, Пятро Садоўскі, Яўген Новікаў, іншыя народныя абраньнікі. У іх руках кветкі. На тварах, упершыню за гэтыя дні—радасныя ўсьмешкі. Яны віншуюць нас зь перамогай, але мы разумеем, што ў беларускай дзяржавы будзе яшчэ не адно выпрабаваньне.



25 жніўня 1991 г. Фота М.Жілінскага



# 25 жніўня — што далей?..

Анатоль Белы, Аўген Гучок, Сяржук Плыткевіч



**25 жніўня**

20 гадзін 10 хвілін. Абвешчана незалежнасьць Беларусі. За Закон «Аб наданьні статуса Канстытуцыйнага закона дэклярацыі Вярхоўнага Савета БССР аб дзяржаўным сувэрэнітэце БССР» — прагаласавала 256 чалавек. Галасаваўшых супроць і устрымаўшыхся не было.

**31 жніўня**

Адбыўся нечарговы пленум ЦК ЛКСМБ. Камсамольцы адмежаваліся ад КПСС—КПБ і свой зварот да моладзі закончылі словамі: «Жыве Беларусь!»

**1 верасьня**

Беларусь і Украіна абмяняліся ратыфікацыйнымі граматамі.

**2 верасьня**

У Траецкім прадмесьці, у Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры закончылася дэманстрацыя выстаўкі, прысьвечанай Уладзіміру Караткевічу «Быў. Ёсьць. Будзе». На ёй гледачы маглі пазнаёміцца з рукапісам аўтабіяграфіі, шматлікімі фатаздымкамі паэта, яго асабістымі рэчамі.

**3 верасьня**

Польскі сэйм прызнаў незалежнасьць Беларусі.

**5 верасьня**

Мінгарсавет вярнуў Менску гістарычную назву Менск і герб.[1] Над будынкам гарсавета побач з яшчэ пакуль дзяржаўным сьцягам узьняты гістарычны бел-чырвона-белы сьцяг.

**6 верасьня**

Старшыня Савета Міністраў Беларусі В.Кебіч прыбыў з афіцыйным візытам ў Рэспубліку Карэя.

**13 верасьня**

Прэзыдыюм СМ Беларусі прыняў рашэньне аб рэарганізацыі «Белавежскай пушчы» з запаведна-паляўнічай гаспадаркі ў Дзяржаўны нацыянальны парк.

**14 верасьня**

У рэспубліканскіх газэтах надрукавана «Дэклярацыя Руху за дэмакратычныя рэформы ў Беларусі» Але яшчэ невядома, ці стане новы рух сапраўднай палітычнай сілай у рэспубліцы.

**17 верасьня**

Пачалася нечарговая сэсія ВС Беларусі.

**18 верасьня**

Старшынёй Вярхоўнага Савета Беларусі абраны Станіслаў Шушкевіч, вядомы беларускі дзяржаўны дзеяч і вучоны.

**19 верасьня**

Беларускі парлямэнт прыняў гістарычныя рашэньні аб назве, сьцягу і гербе Рэспублікі Беларусь. Нарэшце, нашая Бацькаўшчына абвешчнана Рэспубліка Беларусь.

**28 верасьня**

Да Страшыні ВС Беларусі Станіслава Шушкевіча зьвярнулася з заявай Рада Саюза журналістаў Беларусі. У ёй гаворыцца аб страшэнным стане, у якім апынуўся друк рэспублікі.

*Душа беларуса,..*
*Калі ёй баліць,*
*Яна не крычыць.*
*А цярпіліва маўчыць.*
*Чаму-ж так выходзіць? —*
*Хацеў-бы я знаць.*
*Баіцца, што будуць яе ушчуваць.*

*Аўген Гучок*

1. Але Вярхоўны Савет Беларусі пакуль не зацьвердзіў за сталіцай Беларусі яе гістарычную назву.

**3 кастрычніка**

Сябры клюба «Спадчына» на сваім пасяджэньні прынялі Зварот да Эдуарда Шэварнадзэ. У сувязі з перамовамі паміж РФССР і Літоўскай рэспублікай, клюб лічыў нагадаць кіраўніку расейскай дэлегацыі некаторыя факты зь гісторыі станаўленьня савецка-літоўскіх адносінаў. Падкрэсьліўшы, што урад РФССР —СССР, падпісваючы пагадненьне без удзелу Беларусі, тройчы здраджваў інтарэсам ня толькі жыхароў Вільны і Віленшчыны, але нацыянальным інтарэсам уся го Беларускага народу, клюб прапанаваў

1. У перамовах павінны прыняць удзел паўнамочныя прадстаўнікі Рэспублікі Беларусь.

2. Перамовы павінны праводзіцца пры поўнай галоснасьці, канчатковае рашэньне Віленскага пытаньня павінно быць пастаўлена у залежнасьці ад вынікаў рэферэндумаў як у Віленскім краі, так і на тэрыторыях Рэспублікі Беларусь і Літоўскай рэспублікі.

**8 кастрычніка**

На 100-м годзе жыцьця ў Вільні памерла старэйшая беларуская пісьменьніца, паплечніца Максіма Багдановіча, актыўная ўдзельніца Адраджэньня Беларусі Зоська Верас (Людвіка Антонаўна Войцік). Вечная памяць ёй.

**11 кастрычніка**

На адным з энергаблёкаў Чарнобыльскай АЭС узьнік пажар, быў разбураны дах над блёкам. На шчасьце, пажар патушылі. Па зьвестках афіцыйных арганізацыяў, радыяцыйнай уцечкі не было.

*З гадзінаў першых катастрофы*
*(Цяпер ўжо гэта не сакрэт)*
*Ідзе актыўна адсяленьне*
*Людзей у асноўным на той сьвет.*
*Аўген Гучок*

Сябры цэнтру «Беларусь», што ў Казахстане, прынялі зварот да беларусаў, якія жывуць за межамі Бацькаўшчыны.

«Хоць мы і далёка ад Беларусі, але павінны зразумець, што наступіў час дзейнічаць. Зямля Беларусі, яе патэнцыял павінны быць уласнасьцю беларусаў: і тых, якія цяпер у Беларусі, і тых, якія далёка ад яе межаў.

Цяпер, калі ў Беларусі зьяўляюцца новыя законы, мы павінны сказаць, аб гэтым парлямэнту Беларусі. Мы павінны сказаць аб тым, што больш двух мільёнаў беларусаў Сібіры, Прыбалтыкі, Казахстана, Польшчы, Заходняй Эўропы, Амэрыкі, Аўстраліі павінны мець права атрымаць грамадзянства новай Беларусі. Лёс гэтых людзей дазваляе ім быць грамадзянінам як той зямлі, якая корміць яго сям'ю, так і той далёкай спадчыны, дзе пакояцца яго дзяды, бацькі і дзе заўтра ён можа быць і сам.

Наш культурны асяродак зьвярнуўся ў беларускі парлямэнт з прапановай улічваць пры выпрацоўцы законаў гэтыя й іншыя інтарэсы беларусаў, якія жывуць сёньня далёка ад яе межаў.

Мы зьвяртаемся да вас, паважаныя сябры, за падтрымкай, мы просім Вас папоўніць наш зварот Вашымі жаданьнямі і накіраваць іх у адрас старшыні Вярхоўнай Рады Беларусі доктара Станіслава Шушкевіча».

**12-13 кастрычніка**

У Доме літаратара адбыўся І-шы арганізацыйны зьезд Беларускага згуртаваньня вайскоўцаў, створанага 20 жніўня. Прыняты Статут БЗВ і Зварот да Вярхоўнага Савета, палітычных партыяў і народу Беларусі.

У Звароце сказана: «Мы, беларускія вайскоўцы, сумленна служылі краіне пад назвай Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, таму што гэта была і наша краіна. Зараз, калі Савецкі Саюз распадаецца, кожнаму трэба рабіць свой выбар. Дзесяткі тысяч беларусаў вайсковая служба раскідала па велізарных аб-

шарах Эўропы і Азіі. Розные наш лёс, розныя палітычныя погляды, але ёсьць адно, што яднае нас усіх ад салдата да генерала, —і гэтае шчырая і незгасальная любоў да сваёй Бацькаўшчны. Дзе-б мы не праходзілі службу, але праз гады і далячыні нясём у сэрцы часьцінку Маці—Беларусі». Мэтай сваёй Беларускае згуртаваньне вайскоўцаў абвясьціла прапаганду ідэі стварэньня нацыянальнага войска Рэспублікі Беларусь.




**15 кастрычніка**

Пачалася нечарговая сэсія Вярхоўнага Савета Беларусі. Сярод многіх пытаньняў, якія выносяцца на яе абмеркаваньне — праэкт новай Канстытуцыі Беларусі. Першым Генеральным пракурорам Рэспублікі дэпутаты прызначылі народнага дэпутата СССР Ігнатовіча.

**18 кастрычніка**

Прынята пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб увядзеньні ў дзеяньне закона «Аб грамадзянстве рэспублікі Беларусь». Згодана артыкула 17 права на набыцьцё грамадзянства рэспублікі Беларусь захоўваецца за асобамі, якія пастаянна пражывалі на тэрыторыі рэспублікі Беларусь, але былі прымусова выселены зь яе тэрыторыі або выехалі за яе межы да ўвядзеньня ў дзеяньне гэтага Закона, а таксама за іх нашчадкамі. Такое-ж права на набыцьцё грамадзянства Рэспублікі Беларусь маюць беларусы, а таксама асобы, якія ідэнтыфікуюць сябе як беларусы й іх дзеці, што нарадзіліся за межамі сучаснай тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Грамадзянства такім асобам прадастаўляецца пры наяўнасьці іх жаданьня і ўмоў, прадугледжаных артыкулам 13 Закона, за выключэньнем тэрміну пражываньня.

У Яраслаўлі адбылося адкрыцьцё Дома—музэя Максіма Багдановіча. У гэтым доме клясік беларускай літаратуры працаваў з 1912 па 1916 гг. Аб гэтым сьведчыць бронзавая шчыльда з выявай М.Багдановіча, выкананая беларускім скульптарам Генадзем Мураўцавым. У сваёй прамове дырэктар музэя Максіма Багдановіча ў Менску Алесь Бялецкі выказаў яраслаўцам вялікую падзяку за захаваньне дома, у якім Максім упершыню пабачыў свой «Вянок».

Анатоль Белы, старшыня клюба «Спадчына», выказаў сваю удзячнасьць людзям, якія ратавалі дом М.Багдановіча ад зносу і ў першую чаргу Натальлі Клявакінай. Ён перадаў жыхарам Яраслаўля сардэчнае прывітаньне ад беларусаў, якія жывуць у Амэрыцы. «Амэрыканскія беларусы, — адзначыў прамоўца,— сабралі грошы на помнік паэту, які ў хуткім часе стане на тым месцы, дзе вучыўся Максім, ля былой мужчынскай гімназіі». Таксама сп. Белы перадаў музэю камплект часопіса «Полацак».

*Ля помніка Максіму Багдановічу*
*Стаіць сірочa Багдановіч*
*У самым цэнтры БССР...*
*А хто-б інaчай выглядаў тут-*
*Сярод прывідаў і хімер?!*
*Аўген Гучок*

**2 лістапада**

Менск адзначаў Дзяды. Раніцай у 11 гадзінаў каля цэнтральнага ўваходу ў

будынак КПБ адбыўся мітынг-рэквіем. Выступілі Зянон Пазьняк, пісьменьнік Артур Вольскі, былыя вязьні сталінскіх турмаў і лягероў пісьменьнік Васіль Хомчанка, кінарэжысер Георгі Колас, Мая Кляшторная. Пасьля мітынгу на рагу вул. Камсамольская і прасп. Леніна паставілі часовую капліцу. На будынку рэспубліканскага КДБ удзельнікамі мітынгу ўстаноўлены мемарыяльны знак «Вечная памяць ахвярам бальшавіцкага тэрору». У былым лесе Воўчы хвост, сёняшнім парку Чэлюскінцаў, на месце захараненьня сталінскіх ахвяраў былі ўскладзеныя кветкі. Далей усе пайшлі на Курапаты. На зямлі, што прыняла тысячы тысяч бязьвінных сыноў і дачок, выступіў праваслаўны сьвятар а.Георгі. Ён па-беларуску адслужыў паніхіду ў памяць ахвяраў сталінскага генацыду.

**7 лістапада**

«Чырвоны» дзень календара прайшоў для пераважнай большасьці менчукоў спакойна. Напярэдадні прыхільнікі камуністычнай партыі распаўсюджвалі ўлёткі аб сваім намеры сьвяткаваць дзень Вялікага кастрычніка. Але гарадзкія ўлады забаранілі праводзіць якія-небудзь мітынгі ў гэты дзень перад помнікам Леніна. І ўсё-такі ў гарвыканкам былі пададзены дзьве заяўкі на правядзеньні мітынгаў. Яны былі задаволеныя. Праўда, у апошні момант БНФ адмовіўся ад правядзеньня траурнага мерапрыемства, прысьвечанага памяці ахвяраў таталітарнага рыжыму. І ў парк Купалы прыйшлі толькі тыя, каго не пасьпелі папярэдзіць аб адмене мітынгу. А былыя камуністы, дэпутаты Вярхоўнага Савета, тыя, хто сёньня аб'яднаўся у Рух за дэмакратыю, сацыяльны прагрэс і справядлівасьць, найбольш ідэйныя вэтэраны правялі свае мерапрыемства ў парку ім. Горкага. Мітынг працягваўся нядоўга. Пад час яго узьніклі спрэчкі вэтэранаў з моладзьдзю

**9 лістапада**

У Менскім Эпархіяльным упраўленьні Беларускага Экзархата адбыўся навуковы калёквіюм «Аб пачатку Полацкай эпархіі». Адкрыў яго Мітрапаліт Менскі і Горадзенскі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі. У сваёй прамове па-беларуску ён адзначыў, што для царквы, духоўнага ўзрастаньня беларускага народу стварэньне Полацкай эпархіі мела вялікае значэньне. Удзельнікі калёквіюма адзначылі, што ў летапісах, якія дайшлі да нашых дзён, першы япіскап, які меў тытул Полацкага, упамінаецца ў 1105 г. На думку Юрыя Штыхава, хрысьціянства ў Полацку было прынята прадстаўнікамі вышэйшай знаці адразу за хрышчэньнем і ўвядзеньнем новай веры ў Кіеве ў 988 г. Сярод тых, хто прыняў хрысьціянства па бызантыйскай традыцыі былі Рагнеда й яе сын Ізяслаў. Можна меркаваць, што ў Полацку быў пакладзены пачатак эпархіі адразу пасьля ўзьнікненьня Кіеўскай мітраполіі ў 90-е г. X ст. Гэтыя й іншыя дадзеныя дазваляюць вызначыць 992 г., як год стварэньня Полацкай эпархіі. Пры гэтым, на думку Міколы Ермаловіча, нельга лічыць пашырэньне хрысьціянства зь Кіева, як замацаваньне кіеўскай улады на Полацкай зямлі. Назначэньне япіскапа зь Кіева ў Полацак не садзейнічала падпарадкаваньню Полацкага княжаства кіеўскаму князю.

Удзельнікі калёквіюма падтрымалі ідэю Анатоля Белага аб увекавечаньні памяці Рагнеды й Ізяслава ў г. Полацке і Заслаўе, а таксама прапанову паставіць на рашэньне царкоўнага Сыноду пытаньня аб праслаўленьні гэтых дзеячоў у гісторыі Беларусі.

У дыскусіі прынялі ўдзел Мітрапаліт Філарэт, япіскап Полацкі і Віцебскі Дзімітры, гісторык Мікола Ермаловіч, археолягі Юры Штыхаў, Сяргей Тарасаў,

гісторык, супрацоўнік інстытута Славяназнаўства і Балканістыкі АН СССР Аляксандр Рогаў, супрацоўнік выдавецкага аддзелу Полацкай эпархіі Генадзь Лебедзеў, дырэктар цэнтра Францыска Скарыны Адам Мальдзіс, гісторык Алег Гайну тдзінаў, публіцыст Фёдар Крыванос, гана ровы сябра рэдкалегіі «Полацака» Анатоль Белы, намесьнік міністра культуры Уладзімір Гілен, бібліёграф Валянтына Дышыневіч, а.Нікан Лысенка, рэфэрэнт МЕУ Аляксандр Сымкін, народны дэпутат ВС Беларусі Валянтын Голубеў.

У ходзе дыскусіі былі выказаныя дум кі, што адзначэньне 1000-годзьдзя заснаваньня Полацкай эпархіі ў 1992 годзе павінна прыцяць агульнацаркоўны й агу льнацыянальны характар.

—Гэтае сьвята павінна паслужыць кансалідацыі беларусаў усяго сусьвету, — падкрэсліў пры завершэньні калёквіюма Мітрапаліт Філарэт.

**16 лістапада**

У Віцебску пачалася навуковая нара да да 830-годзьдзя стварэньня Лазарам Богшам крыжа для св. Еўфрасіньні Полацкае. З прывітальным словам да ўдзельнікаў нарады зьвярнуўся Біскуп Полацкі і Віцебскі Дзімітры. Пасьля яго бла гаслаўленьня пачалася навуковая нарада. На ёй выступілі з дакладамі: Анатоль Грыцкевіч «Праваслаўная царква ў Полацкім Княстве», Вячаслаў Чамярыцкі «Полацкі летапіс. Загадкі, гіпотэзы, мер каваньні», Аляксей Мельнікаў «Жыціе і жыцьцё сьв.Еўфрасіньні», Васіль Купрыя наў «Новыя матэрыялы да гісторыі пера захаваньня мошчаў сьв. Еўфрасіньні», а.Міхаіл Уліхін «Духоўнае значэньне крыжа Прападобнае», Леанід Аляксееў «Цудатворны моц крыжа сьв. Еўфрасіньні», Уладзімір Арлоў «Крыж сьв. Еўфрасіньні. Лёс нацыянальнае сьвятыні», Анатоль Белы «Крыж сьв. Еўфрасіньні й яго функцыянальнае значэньне», Васіль Пуцко «Крыж Еўфрасіньні і ўзьдзьвіжанскія крыжы XII—XIII ст.», Адам Мальдзіс «Пошукі крыжа сьв. Еўфрасіньні», Эльза Максімава «Надпісы беларускіх напрастольных крыжоў ХУІІ-ХУІІІ ст.», Сяргей Панізьнік «Сяргей Сахараў—дасьледчык Полацкіх сьвятыняў», Віктар Шматаў «Да гісторыі Полацкае Адзігітрыі», Юры Піскун «Іканапіс Полацка XII—ХУІ ст.», Адольф Сяліцкі «Некаторыя пытаньні рос пісу Спаскае царквы ў Полацку», Валянтын Булкін «Да пытаньня аб Полацкім дойлідстве XI—XII ст.», Яўген Калбовіч «Дойлідства часоў сьв. Еўфрасіньні», Сяргей Тарасаў «Сядзібы полацкіх залатароў X—XII ст», Алег Трусаў «Полацкі дойлід Іаан», Ніна Здановіч «Асноўныя архітэктурна-археалягічныя дасьледава ньні Полацка ў 1989-1991 гг.» Віктар Раб коў «Канцэпцыя адлюстраваньня духоўнае культуры старажытнае Беларусі ў музэйнай экспазыцыі».

**17 лістапада.**

Нарада прадоўжылася ў Полацку.

Удзельнікі наведалі Спаса-Еўфрасінь неўскі кляштар, Спасаўскую царкву.

**З 25 жніўня -- па сёняшні дзень**

Беларусы ў чаканьні перамен.

*Народ, які чакае,*
*Што штосьць яму дадуць,*
*Такі народ звычаем*
*На бойню адвядуць.*

*Народ, які на Бога*
*Забыўся навякі,*
*Здабыў сабе нямнога,—*
*Здабыў у труну цьвікі.*

*Народ, які на мову,*
*На родную пляваў,*
*Стварыў сабе ўмовы—*
*І сярод іх сканаў.*

*Народзе, ты народзе,*
*Ты беларускі люд,*
*Няўжо табе ня годзе*
*Быць у лапцях ў паскуд?!*
*Аўген Гучок*

 

# ЗГУКІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ



*На маёй кніжнай паліцы стаіць кніга Васіля Быкава «Мёртвым не баліць». Яна выдадзеная на амэрыканскай зямлі беларусамі Замежжа ў 1981 годзе. Першая кніга сучаснай Беларусі, надрукаваная нашымі суайчыньнікамі. Чаму выдаўцы выбралі аповесьць Васіля Быкава, зразумела. Як пісаў у сваім вершы «Васілю Быкаву» Уладзімір Караткевіч: «Усё мінае —Гонар не мінае, Бо народжаны адным сумленьнем. Калі сонца выб'еццa з туману, Толькі іх і ўспомніць хор народаў, Воінаў сваіх сьвятых і зраненых, Рыцараў сумленьня і свабоды». Той, хто выдаваў кнігу Быкава на свае асабістые сродкі, добра разумеў гэта. Выдаўцы былі таксама воінамі за свабоду, і ў іх душа балела за нас, беларусаў, і за нашу памяць. Бо не памерла душа яшчэ ў народзе гэтым.*



26 верасьня 1991 г. На пасяджэньні клюба «Спадчына» выступае народны пісьменьнік Беларусі Васіль Быкаў.

*А можа нашая няболь за паміраньне роднай мовы, зьнішчэньне нашай такой багацейшай некалі культуры, выкараненьне сьвядомасьці і была нашае паміраньне як нацыі? Пэўна, не ўсе прыта соўваліся да ўсеагульнай абыякавасьці або падобна Багдановічаўскаму мужыку замест «Ратуйце!» казалі Дзякуй». Васіль Быкаў быў адзін з тых нямногіх пісьменьнікаў Беларусі, хто ніколі не заглушаў гэты боль салодкімі пялюлямі хлусьні. Ён варушыў нашую рану — памяць, не даваў запячыся ёй непрабіваемай коркай. І змог данесьці нашую ўласную боль да нас саміх. Так што, нарэшце, нам забалела. І апякло нас полымем, у якім загінулі нашыя лепшыя сыны. І прачнуліся мы ад летаргічнага сну, які доўгі час прымалі за сьмерць. І разрушылася апошняя зь імпэрыяў сьвету. Бо кожная нацыя павінна жыць сваёй сям' ёй.*

*Але што мы мусім рабіць зараз, каб нацыянальная ідэя жыла і квітнела? Ад чаго залежыць наш заўтрашні дзень, што нас можа чакаць ў першыя гады незалежнасьці,—аб гэтым і многім іншым ішла нядаўняя размова сяброў клюбу «Спадчына» з Васілём Быкавым на пасяджэньні клюба. Яно пачалася з гімна «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» і скончылася згодай Васіля Быкава стаць ганаровым сябрам клюбу «Спадчына». Клюбу, што аб' яднаў людзей, у якіх таксама заўсёды душа балела за Беларусь, вольную і незалежную. Але аб усім па парадку.*

# «Нас чакае зацятая барацьба...»



Васіль Быкаў



Гаварылі і гаворым аб палітыцы шмат. але ад гэтага справа не мяняецца, а наадварот— жыцьцё ўсё горашае і нас наперадзе чакаюць вялікія выпрабавань ні і вялікая бяда. Людзі павінны ведаць, што СССР як дзяржава распалася, і гэта сталася не таму, што да таго на яе падзенічалі нейкія злыя сілы або асобы. Саюз распаўся таму, што ён вычарпаў свае сілы, усе свае магчымасьці. У ліквідацыі заслуга ні Гарбачова, ні камуніс тычнай партыі, ні народу, ні дэмакратыі —у гэтым гістарычная заканамэрнасьць. Час імпэрыі мінуў. Сувэрэнітызацыя, што стала папулярнай апошнім часам, неабходнасьць, гэта спроба паратунку. Шэсьць гадоў перабудовы нас перакана лі: уратавацца ўсім разам, як нам абяцалі партыйныя агітатары, немагчыма. Стан эканомікі, палітыкі такі, што ўратавацца можна толькі паасобку. Кожная нацыя ўзялася сябе ратаць у адпаведнасьці з сваім разуменьнем і гэта зусім лягічна.

Беларусь да гэтага разуменьня дай шла вельмі няхутка, далёка ня першая, магчыма, нават апошняя. Нашае кіраўніцтва, у першую чаргу партыйнае, моцна супраціўлялася, але гэтае супраціўленьне аказалася безвыніковым, бо ўсё-такі трэба было набыць незалежнасьць. І гэта правільна.

Зірніце на гістарычны вопыт іншых народаў. Кожная нацыя ладзіць жыцьцё сваёй адасобленай сям'ёй. Гэта ня значыць, што яна цалкам адасабляецца ад усяго сьвету. Але свой парадак трэба рабіць самім і ў сваёй хаце. Дарэчы, ідэя калектывізму аджыла сваё. Гэтыя камуны, арцелі, інтэрнаты 20-30-х гадоў. Нават наша камуністычнае кіраўніцтва прыйшло да высновы, што кожнай сям'і трэба даць асобную кватэру. Гэта-ж адносіцца і да нацыяў. Кожная нацыя павін на жыць сваёй сям'ёй. У той-жа Эўропе нядрэнна жывуць, бо дзяржаўнасьць там пабудаваная на нацыянальнай ідэі, а не на інтэрнацыянальнай. Інтэрнацыянальная ідэя, якая доўгі час у нас існавала, ня вытрымала выпрабаваньня часам і ня толькі ў нас, а ва ўсім сьвеце за малым выключэньнем. Нацыянальная ідэя існуе і працьвітае. Для гэтага ня трэба быць вялікім народам, як напрыклад, расейскі народ, нямецкі або французскі. Можна быць і маленькім, як бэльгійскі, галанд скі, нарвежскі. Гэтыя народы жывуць у сваіх межах і жывуць выдатна.

Паколькі наша беларуская нацыя страціла шмат часу, каб прыйсьці да элементарных высноў, на прыканцы дваццатага стагодзьдзя ладзіць сваю сувэрэннасьць будзе вельмі і вельмі цяжка. Таму ня трэба думаць, што сувэрэннасьць адразу прынясе нам шчасьлівае жыцьцё, высокі эканамічны ўзровень. Звычайная партыйная прапаганда атаясамлівае палі тычную незалежнасьць з эканамічнай абасобленасьцю — гэта абсалютна няпра вільна. Кожная нацыя, якая аддзяляецца, імкнецца толькі да палітычнай незалежнасьці і максімальнай эканамічнай сувязі з усімі суседзямі. Таму і ў беларусаў з палітычнай незалежнасьцю эканамічныя зносіны будуць паглыбляцца і набываць нацыянальны разумны характар, але ўсё роўна, нас чакаюць вялікія ахвяры. Таму жыцьцёвы ўзровень будзе зьніжацца на працягу бліжэйшых гадоў.

Мы будзем доўга залежаць ад эканомікі суседзяў. Таму нам неабходна зразумець, што трэба пайсьці на пэўныя ах-

вяры. Але баюся, што мы зноў ня хутка гэта ўсьвядомім. Мы павінны зразумець, што апрача эканамічнай мэтазгоднасьці, сувэрэннасьць мае яшчэ і духоўны сэнс. Наш дабрабыт, наш заўтрашні дзень залежыць ад меры ўсьведамленьня і гатоўнасьці да пэўных ахвяр. Мы ведаем, што, напрыклад, прыбалты гатовы на ахвяры, і яны гэтую гатоўнасьць нам усім паказалі. Ня ведаю, ці гатовы на ахвяры беларусы.



*—Што чакае нас у першыя гады незалежнасьці?*

Я не прарок, але чакае нас вельмі зацятая барацьба ўсё з той-жа ідэялёгіяй, псыхалёгіяй і палітыкай спыненай партыі. Трэба ведаць, што гэтая партыя не здасца, і яна цяпер выпрацоўвае новыя мэтады далейшай сваёй працы. У ёй ёсьць вялікія сілы, і тое, што адбылося ў Таджыкістане, можа вельмі лёгка адбыцца ў любы момант і ў Беларусі.

*—Што трэба зрабіць нашым палітыкам, каб незалежнасьць Беларусі прызналі ўсе краіны?*

—Каб прызналі трэба, каб Беларусь стала самастойнай дзяржавай. Калі прыбалтыйскія рэспублікі аддзяліліся і сталі самастойнымі, іх усе прызналі.

Палітычных сіл у рэспубліцы многа. Створана шмат партыяў, самых розных. І ўсе яны невялікія і рэальнай палітычнай сілы пакуль не ўяўляюць. А каб наш парлямэнт быў дзейсным, неабходна, каб гэты Вярхоўны Савет самараспусьціўся і былі праведзены новыя выбары з удзелам усіх партыяў. Але ўсё гэта вельмі праблематычна, бо няма такой сілы, якая-б прымусіла Вярхоўны Савет самараспусьціцца. Відаць, яшчэ тры гады будзем таптацца на месцы, пакуль скончацца яго паўнамоцтвы.

*—Як вы глядзіце на тэрытарыяльныя прэтэнзіі да Літвы, зь якімі ў свой час выступіла кіраўніцтва Беларусі?*

—На гэты конт у мяне вельмі катэгарычная пазыцыя: ніякіх тэрытарыяльных прэтэнзіяў да суседзяў, ніякіх памежных спрэчак, бо ўсё гэта працуе не на нашую галоўную ідэю, а толькі разбурае яе. Тэрытарыяльная праблема ніколі ня можа быць вырашана справядліва, яна толькі дасьць яшчэ адно полымя вайны. Іншая справа, калі Беларусь стане сувэрэннай дзяржавай і вырашыць усе ўнутраныя праблемы, набудзе дэмакратычных суседзяў. Тады на дэмакратычных, добрасуседзкіх асновах можна шляхам перагавораў абмеркаваць і спрэчныя тэрытарыяльныя пытаньні. Беларусы ў Літве займаюць правільную пазыцыю. Яны шануюць той дом, дзе жывуць. І іх за гэта там паважаюць.

*— Ці сказана ўся праўда пра вайну?*

— У нашай гісторыі панаваў і пануе «избирательный метод»: зь гісторыі выбіраюцца пэўныя падзеі, найбольш прымальныя для рэжыму, і яны затым вывучаюцца і прапагандуюцца. Так будуецца патрэбная палітыка. Другая сусьветная вайна — гэта ня толькі чатыры гады бойкі, але і вялікая эпоха ў нашай гісторыі. Прайшло пасьля яе шмат гадоў, шмат пра вайну напісана, але поўная праўда пра яе ня сказана. І асабліва гэта адносіцца да барацьбы з фашызмам на нашай тэрыторыі. Тут была вельмі складаная сытуацыя, у якой праявіліся ўсе тэндэнцыі: і самыя высакародныя, і самыя нізкія. Іменна ў гады вайны беларускі народ высока засьведчыў сваю рэпутацыю. І калі ў сьвеце пра Беларусь штосьці-небудзь ведаюць, дык гэта ў першую чаргу зьвязана з вайной, у тым ліку з партызанскай барацьбой. Я разумею: было многа несправядлівага, сталінскага, страшнага і з боку партызан, таму я

думаю, калі запануе поўная дэмакратыя, нашыя вучоныя, мастакі дабяруцца да ўсіх асьпектаў гэтай барацьбы, і ўсё будзе пастаўлена на свае месцы. Некалі настольнай кнігай па партызанскай тэме быў двухтомнік Цанавы. Па ім ўсе вывучалі вайну. Яшчэ і ў наступным стагодзьдзі нам давядзецца вывучаць мінулую вайну, каб дайсьці да праўды. Зьявяцца новыя факты, новыя асьпекты, аб якіх дазнаюцца новыя пакаленьні.

*—Улічваючы новыя зьвесткі пра вайну, ці зьмянілі вы некаторыя дэталі ў сваіх творах, ці не? Ці будзеце працягваць распрацоўваць і далей тэму вайны?*

—Мяне цяпер найбольш цікавіць не вайна, а трыццатыя гады, бо многае, што адбылося ў час вайны — гэта вынік па дзей, якія былі перад ёй. Вялікі гвалт супраць народу ня мог не адбіцца на вайне. А наконт зьменаў у творах, то, безумоўна, улічваючы новыя зьвесткі пра вайну, я раблю належныя карэкціроўкі, але гэта не заўсёды мажліва. Пасьля надрукаваньня майго твора я адасабляюся ад яго, і твор прадаўжае сваё асабістае жыцьцё з крытыкамі і чытачамі.

*— Ці адказвае народ за дзеяньні ўладаў?*

—У канцы вайны Гітлер наракаў на свой народ, які ня зьдзейсьніў яго задумаў. У супрацівастаяньні лідэра і народу праўда на старане народу. Але ёсьць і другая ісцьіна. У дэмакратычных дзяржавах, як толькі урад увахозіць у супрацівастаяньне з народам, народ яго не пацерпіць. Народ, які дазваляе сябе сядлаць і доўга церпіць дэспота, як, напрыклад, Сталіна, такі народ таго і варты.

*— Чаму ў наш час такія пасіўныя пісьменьнікі? Чаму яны ня ходзяць на мітынгі?*

— Каб толькі пісьменнькі не хадзілі на мітынгі, дык гэта яшчэ паўбяды, але-ж многія зь іх выступалі супраць мітынгаў, супраць забастовак, падтрымоўвалі палітыку кампартыі, змагаліся зь Беларускім Народным Фронтам. Усе гады пісьменьнікі былі рычагамі партыі, у іх было кіраўніцтва, якое ставілася з згоды ЦК партыі, іх была вялікая партыйная арганізацыя, якая кожны тыдзень склікала партсходы, на якіх прымалі рэзалюцыі па барацьбе з нацыяналізмам, з БНФ. Калі вы думаеце, што папулярныя, вядомыя пісьменьнікі зьяўляюцца начальнікамі, то на самой справе так ня ёсць. Нашыя таленавітыя па Божай міласьці пісьменьнікі,такія як Барадулін ды іншыя ў саюзе пісьменьнікаў сядзяць на задніх лаўках, а кіруюць там іншыя людзі, аб якіх вы мала ведаеце. Для прыкладу, што вы чулі пра Нічыпара Пашкевіча? Я не гавару пра дзясятак іншых партыйных рычагоў, пра актыўных камуністаў, адных толькі сэксотаў там па меншай меры палавіна. Што-ж вы хочаце, каб яны хадзілі на мітынгі і выступалі, прыймалі ўдзел у нашым змаганьні?

*—Ці існуе інфармацыйная блякада Беларусі?*

—Для таго, каб маскоўскія выданьні друкавалі зьвесткі зь Беларусі, патрэбны пэўныя захады ўласных карэспандэнтаў, што ёсьць у рэспубліцы. Ніводны наш карэспандэнт, які працуе, напрыклад, у «Правде», не прызначаны ў Маскве, а ўсё рабілася ў нас у ЦК. Можаце ўявіць, у чым зацікаўленыя і каму служылі гэтыя людзі. Алесь Адамовіч назваў Беларусь Вандэяй перабудовы, і беларускае кіраўніцва ўсе гэтыя гады апраўдывала гэтую назву. У нас стрымліваліся дэмакратычныя працэсы й усё астатняе, што датычылася перабудовы, і гэта стварыла пэўны імідж у народаў краіны пра Беларусь. Цяпер існуе такая думка, што

расейская дэмакратыя кепска адносіцца да Беларусі з прычыны сваёй імпэрскай ідэялёгіі. Але ня толькі з гэтай прычыны, а і з таго, што за апошнія гады Беларусь засьведчыла сябе з самога рэакцыйнага боку. Чаму Ельцын павінен добра адносіцца да нашай рэспублікі, якая ўсе гэтыя гады ўлагоджвала Лук'янава і Гарбачова і не падтрымлівала расейскі парлямэнт? Гэтае не распаўсюджваецца на народ, а Ельцын і не гаворыць пра народ, а пра кіраўніцтва. Дык што рабіць? Два гады назад у Маскве я расказваў Гарбачову пра падзеі 30 кастрычніка, а ён ня верыў і глядзеў на мяне і паціскаў плячыма: «Ну почему же так? Ну, как это было?» Там-жа, у Маскве, я даведаўся, што ў многіх была такая інфармацыя пра 30 кастрычніка, што гэта быў путч нацыяналістаў з мэтай захопу ўлады, які пасьпяхова падавіла міністэрства ўнутраных справаў. За што намесьніка міністра атрымаў чын генерала.

—*Якая найбольшая слабасьць Беларусаў?*

—Уся справа ўпіраецца ў нізкую нацыянальную самасьвядомасьць. Раней, калі дзяржаўная палітыка ставіла за мэту зьліцьцё нацыяў, тады самасьвядомасьць была непатрэбная. Цяпер-жа, калі ўмовы зьмяніліся, нацыянальная самасьвядомасьць вырашае лёс усіх нас. Нацыянальная сьвядомасьць гэта такі капітал, які ня купіш за ніякую валюту. Беларусы, на жаль, захавалі вельмі малую самасьвядомасьць, тут наша няшчасьце.

—*Што сёньня павінна рабіць інтэлігенцыя, каб унесьці свой уклад у незалежнасьць Беларусі?*

—Трэба весьці народ да ісьціны, Канешне, ні адна дэмакратычная структура ня можа параўнацца з той магутнай бальшавіцкай прапагандай, якая столькі гадоў панавала ў нас. Ня толькі ў райкамах, абкамах і ЦК былі аддзелы прапагадны, але й аддзелы дэзынфармацыі ў КДБ, і натуральна, што з усім гэтым справіцца цяжка. І калі распаўсюджваюцца самыя розныя чуткі, дык гэта робіцца людзьмі з пэўнымі намэрамі. Вы паглядзіце на былыя партыйныя газэты, на тую-ж «Звязду» ці «Советскую Белоруссию», якія сёньня сталі незалежнымі. Яны па-ранейшаму працягваюць тую-ж ранейшую лінію. На іх старонках і сёньня зьяўляюцца матэрыялы, якія кампрамэтуюць дэмакратычныя органы ўлады, зьедлівыя кпіны ў адносінах да сувэрэннасьці.

— *Як вы думаеце, чым нам можа дапамагчы беларускае замежжа?*

— На гэтую тэму мне нават гаварыць сорамна, таму што, відаць, унікальны ў гісторыі выпадак, калі метраполія просіць дапамогі ў сваёй няшчаснай, выгнанай у свой час, дыяспары, — гэта жахліва. Магнатаў, міліянераў сярод іх, нашых землякоў, няма. Беларусы, якія жывуць за мяжой, свой дабрабыт нажылі цяжкай працай на чужыне. І цяпер мы, якія палівалі іх гразьзёй, не лічылі іх за людзей, а толькі за здраднікаў і злачынцаў, цяпер мы вядзем зь імі гутаркі, каб яны нас кармілі. Гэта амаральна, гэта проста сорамна. І калі яны ідуць нам на дапамогу, дык і ім гэта даецца ня так проста.

Беларуская дыяспара вельмі ўнікальная ў тым, што яна зьберагла нашу дарэформенную мову. Наша-ж партыйная газэтчына разбурыла ўсю нацыянальную мову, а што засталося, дык засталося спаганеным. Эміграцыя нам нічога не павінна, а мы павінны ёй.





# Каб жыла Беларусь

Леанід Лыч



*Сёлета, 14-15 чэрвеня ў Менску адбыўся II зьезд Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны. Больш за дзьве з паловай сотні дэлегатаў, прадстаўнікоў суполак ТБМ зь Беларусі, іншых рэспублік сабраліся на гэтым форуме. Прагучалі выступленьні настаўнікаў, выхавацеляў, дзеячоў навукі і культуры, руплівцаў за нашую мову. Былі прынятыя пастановы «Да пытаньня аб рэформе правапісу беларускай літаратурнай мовы», «Дзеля ажыцьцяўленьня Закона аб мовах», «Зварот да грамадзян Беларусі, да беларусаў, якія жывуць ва ўсім сьвеце, да прыхільнікаў беларускага слова» й іншыя дакумэнты. Была абраная рада ТБМ на чале з Н.Гілевічам.*

*Сярод выступленьняў дэлегатаў зьезду, якія ўсхвалявалі многіх, была і прамова сябры сакратарыята ТБМ Леаніда Лыча. Прапаноўваем яе вашай увазе зь некаторымі скарачэньнямі.*



Практыка нашага сучаснага нацыянальна-культурнага Адраджэньня паказала, што сфармаваны за пасьляваенны пэрыяд на здабытках расейскай культуры, расейскай мовы шматмільённы пласт беларусаў вельмі мала можа выдзеліць з свайго асяродзьдзя людзей, для якіх усё нацыянальна-беларускае пераўтвараецца ва ўнутраную патрэбу, становіцца тым, без чаго не ўяўляецца нармальнае існаваньне чалавека. Таму пераважна толькі новыя, маладыя людзі, якія сёньня знаходзяцца ў школьным, студэнцкім узростах, нясуць у сябе зародак будучай самабытнай, цывілізаванай беларускай нацыі, прыналежнасьць да якой стане гонарам для кожнага зь яе індывідаў. Сфармаваць з сучасных маладых генерацыяў беларусаў трывалы нацыянальны асяродак — архіскладаная справа. У параўнаньні зь ёю блякнуць тыя намаганьні, якія нам даводзілася прыкладаць пры аднаўленьні разбураных нямецкімі акупантамі вёсак і гарадоў, пры плянамэрным пераўтварэньні Беларускага Палесься ці, як інакш кажуць, лёгкіх Еўропы ў пустынны, зруйнаваны край

У дзесяцімільённай масе беларусаў тварыць утрывалае, нацыянальнае ядро, якое было-б здольным адштурхоўваць ад сябе любое асыміляцыйнае культурна-моўнае ўзьдзеяньне з усходу і захаду, поўначы і поўдня, гэтак-жа цяжка, як супрацьдзейнічаць трагічным наступствам Чарнобыльскай навалы. Больш за пяць гадоў мы імкнемся стрымаць яе распаўсюджаньне, а яна захоплівае ўсё новыя абсягі.

Тое-ж самае назіраецца ў практыцы моўнага разьвіцьця ў нашым краі. З утварэньнем ТБМ, прыняцьця Закона «Аб мовах...» і іншых прававых дакумэнтаў рэальна было-б чакаць абмежаваньня сацыяльных функцыяў расейскай мовы як мовы ненацыянальнай для Беларусі і, наадварот, пашырэньня маштабаў выкарыстаньня беларускай мовы, як мовы нацыянальнай для Беларусі. Не, такога, на вялікі жаль, практычна не назіраецца, што шкодзіць справе нашага нацыянальна-культурнага Адраджэньня.

Дзіўна, што найбольш перашкод ставяць яму друк, радыё, тэлебачаньне, тэатры, кінематограф. Якраз тыя сродкі, якія ў іншых народаў служаць магутнай зброяй зьдзяйсьненьня сваіх нацыяналь-

ных ідэялаў. Нібы на зьдзек, менавіта пасьля ўтварэньня ТБМ, прыняцьця закона «Аб мовах...» у беларускім пэрыядычным друку зьявіліся расейскамоўныя старонкі. А які зьдзек зь беларускага народу, калі на яго этнічнай тэрыторыі існуюць перыядычныя выданьні, якія адкрыта ігнаруюць працу па адраджэньню беларускай культуры і мовы?!

Раней і цяпер, ня ведаючы, не карыстаючыся беларускай мовай можна на гістарычнай тэрыторыі яе носьбітаў выконваць функцыі Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі і сакратара камуністычнай партыі, Старшыні Савета Міністраў і Старшыні Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, узначальваць любое міністэрства. Няведаньне беларускай мовы не перашкаджае стаць заслужаным дзеячам культуры ці заслужаным дзеячам навукі Беларусі, народным ці заслужаным артыстам Беларусі, кіраваць нацыянальным драматычным ці музычным тэатрам, філярмоніяй, вакальна-інструмэнтальным ансамблем і г.д. Пакуль што нельга толькі без авалоданьня беларускай мовы стаць народным пісьменьнікам Беларусі або займацца перакладам літаратурных твораў зь беларускай мовы на іншыя ці наадварот. Затое ў беларускамоўных перэыядычных выданьнях такія людзі трапляюцца. Можа таму такі шлях адчынены сюды рускамоўным тэкстам? Словам, беларуская мова пакуль што не стала крытэрыям грамадзянскай вартасьці чалавека, для якога Беларусь зьяўляецца родным домам. Нават і такая сьціслая паводля сваіх памераў інфармацыя дазваляе зразумець, у якім цяжкім стане знаходзіцца нашая беларуская мова, а разам зь ёю і ўся нашая нацыянальная культура. У гэтай складанай сытуацыі важным зьяўляецца выбраць правільныя крокі дзейнасьці Таварыства Беларускай Мовы, у якога пакуль што мала станоўчага вопыту, шмат нявырашаных праблем.

Каб атрымаць штосьці карыснае для павышэньня эфэктыўнасьці дзейнасьці ТБМ трэба зразумець, што дасягнуць гэтае мажліва толькі ва ўмовах, калі пастаянна будзе моцным цэнтральнае, рэспубліканскае ядро. Сёньня яно адпавядае такім патрабаваньням. Праўда, ядро гэтае вельмі зацятае выкананьнем іншых, ня меньш важкіх абавязкаў. Сам Старшыня Рэспубліканскай Рады Ніл Гілевіч і абодва зь яго трох намесьнікаў зьяўляюцца народнымі дэпутатамі рэспублікі. Працуюць яны ў пастаянных камісіях Вярхоўнага Савета БССР, а трэці намесьнік Аляксандр Падлужны ўзначальвае інстытут мовазнаўства АН БССР. Наўрад ці ў каго-небудзь зь іх ёсьць час для выкананьня на грамадзкіх пачатках функцыяў па лініі ТБМ. Гэтае-ж можна сказаць пра ўсіх астатніх сябраў Сакратарыяту Рэспубліканскай Рады ТБМ, у тым ліку і пра самога прамоўцу. Таму, каб цэнтральнае ядро рэспубліканскай Рады ТБМ было дзейсным, патрэбна некалькі асобаў, вызваленых ад усякай іншай працы, асобаў высока эрудыраваных, здольных разьбірацца ва ўсіх тонкасьцях і супярэчнасьцях нацыянальнага пытаньня ў Беларусі на сучасным этапе, надзеленых арганізатарскім талентам. Беларуская мова заслугоўвае асыгнаваньня неабходных для гэтага фінансавых сродкаў. Справа-ж датычыць выратаваньня беларускай нацыі як самастойнага этнасу, што немагчыма без захаваньня разьвіцьця мовы.

Нам меньш за ўсё трэба імкнуцца выбіраць у кіруючыя ворга765 толькі добра вядомых, высока аўтарытэтных асобаў, якія ўжо паспелі стварыць сабе імя. Нельга абыходзіць увагай іх загрузку службовымі ці грамадзкімі функцыямі. Галоўнае — жаданьне працаваць на ка-

рысьць беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэньня, тады будзе і эфект, зьявіцца, набудзе патрэбную моц арганізатарскі талент, народзіцца вядомасьць. Прыарытэт трэба аддаваць маладым людзям, якія, упэўнены, будуць усё-ж жыць і працаваць на сваёй зямлі ў беларускамоўнай стыхіі.

Такая-ж апора на моладзь павінна быць ва ўсім, што датычыць працы любых структурных падраздзяленьняў ТБМ Асноўныя пласты маладога пакаленьня беларускай нацыі пакуль што сьпяць без просыпу. Рэзультат гэтага — шматгадовая ідэялягічная праца па дэнацыяналізацыі беларускага народу. Моладзь пакуль што ня хоча ці ня верыць у сваё нацыянальна-духоўнае адраджэньне, у чым беларуская мова павінна заняць да мінуючае становішча. Адсутнасьць у моладзі цьвёрдай упэўненасьці ва ўладарны выхад беларускай мовы на шырокі прасьцяг тлумачыцца галоўным чынам тым, што яе і па сёньня не ўвялі ва ўсе віды службовага справаводства, у навучальны працэс тэхнікумаў і інстытутаў. Па ганебнай традыцыі мінулых гадоў яны і цяпер застаюцца расейскамоўнымі, уносяць нулявы ўклад у фармаваньне нацыянальнай інтэлігенцыі. Невыпадкова ў нашых БНУ і тэхнікумах суполкі ТБМ ня сталі дзейснай сілай. Бо як-жа можна актывізаваць моладзь на ўдзел у суполках, калі ў аўдыторыях тэхнікумаў і інстытутаў ледзь чутная беларуская мова?! Ствараць суполкі ТБМ, кідацца ў бой з рэктарамі, дэканатамі, кафэдрамі й іншымі сіламі, што тармозяць беларусызацыю навучальнага працэсу, няма ахвоты тым, хто атрымоўвае — ўжо ня першы год — спэцыяльную адукацыю на расейскай мове. Такія суполкі могуць расьці, запрацуюць, стануць патрэбнымі дырэкцыі, рэктарату, прафэсарска-выкладчыцкаму корпусу, толькі тады, калі навучальна-выхаваўчы працэс пачнуць ладзіць на беларускай мове.

Не лепшае становішча склалася ў агульнаадукацыйных школах і прафэсыйна-тэхнічных вучылішчах. Іх навучэнцы знаходзяцца па-за межамі дзейнасьці таварystваў беларускай мовы. Сёньня на ват задачы такой у сур'ёз яшчэ не ставіцца перад імі і дарэмна. Узровень адукацыі тут даволі высокі. Пры належным стараньні пэдагогаў зусім няцяжка прадставіць усю трагічнасьць сучаснага становішча беларускай нацыі і пасьля гэтага з уласьцівай юнацкаму ўзросту апантанасьцю ўзяцца за яе выратаваньне.

У працэс моўнага адраджэньня беларускага народу моладзь можа ўключацца двума шляхамі: праз стварэньне сваіх самастойных суполак ТБМ у агульнаадукацыйных школах і прафэсыйна-тэхнічных вучылішчах ці праз заснаваньне толькі маладзёжных сэкцыяў пры ТБМ, галоўнымі сябрамі якіх зьяўляюцца настаўнікі. Павінен сказаць, што ўдзел апошніх у працы ТБМ яшчэ не атрымаў жаданага размаху. А ў мінулым-жа, як вядома, пэдагагічная інтэлігенцыя была самай актыўнай сілай у адстайваньні правоў свайго народу на разьвіцьцё роднай культуры і мовы. Тут можна спаслацца на тую велізарную карысьць, якую прыносіў для нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі ў 20-х гадах удзел многіх настаўнікаў у дзейнасьці таварыства беларускай школы (ТБШ). Узьнікаюць пытаньні: чаму-ж сёньня нам не ўдаецца арганізаваць справу так, каб настаўнікі, а разам зь імі школьнікі і навучэнцы прафэсыйна-тэхнічных вучылішчаў сталі актыўнымі прыхільнікамі вяртаньня беларускай мовы на яе законнае месца ў клясы? Чаму за гэта выступаюць толькі нацыянальна самасьвядомыя бацькі, а не іх параўнальна ўжо даволі дарослыя, сталыя дзе

ці? Адказ адзін: у нас усур'ёз ніхто не займаецца нацыянальным выхаваньнем маладых пакаленьняў беларусаў. Усё іх жыцьцё праходзіць у велізарным адрыве ад нацыянальна-духоўных традыцыяў роднага краю. Добра арганізаваная праца суполак ТБМ імя Ф.Скарыны ў агульнаадукацыйных школах і прафэсыйна-тэхнічных вучылішчах (а дзейнічаць яны павінны ў кожнай такой установе) станоўча адбілася-б ня толькі на фарміраваньні нацыянальнай самасьвядомасьці моладзі, а ў многіх выпадках нават дапамагла-б пераадоленьню тых небясьпечных негатыўных антысацыяльных і антыгуманных зьяваў, якія так масава заванавалі ў яе асяродзьдзі. Правільна зразуметая навучэнцамі нацыянальная ідэя з галавой уцягнула-б іх у высокародную справу духоўнага Адраджэньня беларускага народу.

Эфэктыўнасьць працы ТБМ у многім зьніжалася ад таго, што ў яе не было абласных структур, з прычыны чаго вельмі цяжка адсюль зь Менску падтрымліваць сталыя сувязі і ў патрэбным накірунку уплываць на раённыя (гарадзкія) арганізацыі ТБМ. Стварэньне абласных рад ТБМ — першапачатковая задача.

Сёньня, акрамя ТБМ, справамі нацыянальна-культурнага адраджэньня займаюцца і некаторыя цалком і напалову добраахвотныя арганізацыі, у тым ліку Беларускі фонд культуры, Беларускі народны фронт «Адраджэньне», Згуртаваньне беларусаў сьвету «Бацькаўшчына», Таварыства беларускіх краязнаўцаў, менскі грамадзка-асьветніцкі клюб «Спадчына», зусім яшчэ маладая Асацыяцыя беларускіх настаўнікаў і г.д. У такіх умовах нельга пазьбегнуць пэўнага дубляжу. Ці не пасьпеў час для стварэньня нейкага каардынацыйнага цэнтру, які ўсе намаганьні гэтых дабрачынных арганізацыяў мог-бы скіроўваць на вырашэньне найбольш актуальных задач? У час беларусызацыі 20-х гадоў уся праца па беларусызацыі была сканцэнтраваная ў руках Камісіі па ажцьцяўленьні нацыянальнай палітыкі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта БССР. Аналягічныя камісіі былі створаны пры акруговых выканаўчых камітэтах. Сталымі штатнымі працоўнікамі як цэнтральнай (рэспубліканскай), так пакруговых камісіяў былі толькі іх адказныя сакратары. Выкананьне-ж усёй бягучай працы ў іх ускладался на апараты адпаведных выканкамаў. Дзейнасьць такіх камісіяў ва многім прадвызначыла посьпех беларусызацыі.

Ёсьць і цяпер падобная пастаянная камісія пры Вярхоўным Савеце нашай Рэспублікі. Праўда, якая-небудзь ініцыятыва ў рэгуляваньні нацыянальнымі культурна-моўнымі працэсамі зь яе боку не адчуваецца. Цяжка паверыць, што ў бліжэйшы час яна можа стаць каардынатарам беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэньня. Пры такой сытуацыі ці немэтазгодным было-б ролю каардынатара ўскласці на Беларускі фонд культуры, як на найбольш прадстаўнічую арганізацыю, з ужо аформленай структурай перыфэрыйных органаў?

Гістарычная практыка сьведчыць: нацыянальна-культурнае адраджэньне любога народу не можа адбывацца па-за дзяржаўнай палітыкай. З гэтай практыкі няма падстаў выключаць і сучасны вопыт беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэньня. Толькі сумеснай працай дзяржаўных органаў, грамадзка-палітычных структураў, добраахвотных культурна-асьветных аб'яднаньняў людзей можна выртаваць беларускую мову, а разам зь ёю і беларускую нацыю.



# Эмблема на шчыце герба «Пагоня»

Міхась Белямук

Выснова А. Геймоўскага, што Ягайла ўзяў сабе за эмблему вугорскі крыж і гэтую эмблему паклаў на шчыт герба «Пагоня», на нашую думку, сьведчыць, што дасьледчык няўважліва вывучаў гісторыю патрыяршага або падвоеннага крыжа ў Вялікім княстве Літоўскім. Нягледзячы на ваенныя катаклізмы і палітыку акупантаў, захаваліся помнікі з патрыяршым крыжом. У часы панаваньня Альгерда й Ягайлы гэтых помнікаў было шмат болей. Паколькі Вялікае княства Літоўскае мела рэлігійныя, культурныя і палітычныя сувязі з Псковам, Ноўгарадам, Цьверью, Масквой і іншымі гарадамі, мы, дасьледуючы крыж, ня можам абмяжоўвацца толькі тэрыторыяй Вялікага княства Літоўскага.



У Спаса-Еўфрасіньнеўскім манастыры, у царкве сьв. Спаса знаходзіўся крыж, зроблены Лазарам Богшам на замоўленьне ігуменьні Еўфрасіньні ў 1161 г. У крыжы знаходзіліся кроплі крыві Хрыста, што засталіся на крыжы падчас ўкрыжаваньня. Таксама ў крыжы былі частка дрэва, крыжа на якім быў укрыжаваны Хрыстос, частка ад саркафагу, у які паклалі цела Хрыста, частка ад грабніцы Прэсьвятой Багародзіцы, кроў сьв. Дзімітрыя, мочшы сьвятых Сьцяпана і Панцелеймона. Крыж прэпадобнае Еўфрасіньні быў сьвяцейшай рэліквіяй усходняе Эўропы. Ніводзін крыж ня меў столькі схаваных сьвятасьцей. Да 1965 г. дасьледчыкі лічылі, што ён праляжаў у Спаскай царкве да 1596 г., да перадачы Спаса-Еўфрасіньнеўскага манастыра езуітам. У 1596 г. крыж перанесьлі ў Сафійскі сабор, і там ён заставаўся да 1841 г. Езуіты пара разоў хацелі ўкрасьці крыж, яны змайстравалі копію еўфрасіньнеўскага крыжа, хацелі ёй падмяніць сапраўдны. Таму ў 1812 г. у сьцяне сабору зрабілі нішу, паклалі крыж і замуравалі. У 1841 г. урачыста крыж перанесьлі з Сафійскага сабору ў Спаскую царкву і паклалі ў келію, у якой малілася прэпадобная Еўфрасіньня.

У 1965 г. быў апублікаваны 29 том ПСРЛ, на б.303 інфармацыя:«30 лістапада 1562г. вялікі князь Іван ІУ прасіў у мітрапаліта Макарыя благаславенства, бо «задумаў пайсці на адступнікаў хрысьціянскае веры, на бязбожную Літву. У ягоным скрабе тады знаходзіўся полацкі крыж, упрыгожаны золатам і каменямі дарагімі. На крыжы быў надпіс: зроблены гэты крыж у Полацку па замоўленьню княжны Еўфрасіньні і пастаўлены ў царкве ўсеміласьцівага Спаса, каб ніхто не выносіў яго з гэтае царквы ніколі, а калі хто вынясе яго з царквы, хай прыме пакараньне на страшным судзе. Некаторыя-ж паведамляюць: некалі смаляне і палачане мелі «государей» і князёў па сваёй волі і паміж сабой смаляне і палачане ваявалі. Гэты сьвяты крыж смаляне ў Полацку ўзялі і прынесьлі ў Смаленск. Калі-ж набожны гасудар, князь вялікі Васіль Іванавіч усяе Русі вотчыну сваю, Смаленск, ўзяў, тады і крыж сьвяты ў царствуючы горад, Маскву прывёз. Цар і вялікі князь той сьвяты крыж захацеў узяць з сабой з надзеяй на міласэр-

---

Працяг. Пачатак у № 8.

насьць Бога і сілу крыжа, што пераможа ворагаў сваіх, што і сталася».

Іван ІУ сабраў вялікую армію, але не на яе спакладаўся. Ён спакладаў надзею «на сілу еўфрасіньнеўскага крыжа» і абяцаў вярнуць яго ў Полацак.

У Растове перахоўваўся крыж Аврама Растоўскага, ён шасьціканцовы, як і еўфрасіньнеўскі, але без мошчаў. У Ноўгарадзе архіяпіскап Антоні (1212-1229) па ўзору еўфрасіньнеўскага, зрабіў крыж, у якім паклаў частку крыжа на якім быў укрыжаваны Хрыстос. Архіп. Антоні ахвяраваў свой крыж Сафійскаму сабору ў Ноўгарадзе і на крыжы напісаў: «Господи помоги рабу Антонию архиепископу новгородьскому давшему крест святой Софии».

У 1848 г. антонаў крыж забралі. Археалягічныя камісія 17 лютага 1908 г. зацікавілася антонавым крыжом. Аказалася, што «ревнители православия» перарабілі шасьціканцовы на васьміканцовы крыж. Сябры археалягічнай камісіі вынеслі пастанову: «зьвярнуцца ў Сьвяшчэнны Сынод з просьбаю вярнуць пер шапачатковую форму крыжа і вярнуць яго ў ноўгарадзкі Сафійскі сабор» (**16**, 98; **17**, 47-48, таб. ХХУ; **18**, 335).



П.Бацюшкаў паведамляе, што ў берасьцейскім саборы перахоўваўся вельмі старой работы шасьціканцовы (патрыяршы) крыж. У цэнтры верхняй папярэчкі невялічкі шасьціканцовы крыжык, які сьведчыў, што пад ім знаходзіліся нейкія мошчы. (**19**, вып. УІІІ)

Кіеўскі Сафійскі сабор пабудаваны 1017-1037 гг. У цэнтральным купале з 4-х мазаічных архангелаў захаваўся толькі адзін арыгінальны архангел з 1043-1046 гг. Ён у правай руцэ трымае лябарум з надпісам «агіос», у левай—сфэра з патрыяршым крыжам на Галгофе (**20**, 111 - 112, мал.38; **21**, 81-82, м5; **22**, 225, м.1)



У міхайлаўскім алтары на цэлую апсыду намаляваная фрэска архістратыга Міхаіла з сфэраю ў правай руцэ, на сфэры патрыяршы крыж.



У паўдзённым нефу ў купалах дзьве фрэскі архангелаў з 1046-1067 гг. Кожны зь іх трымае сфэру ў руцэ, на сфэрах патрыяршыя крыжы. (22, 236, мал. 24 і 25) У сьценах сафійскага сабору хавалі нябожчыкаў, у адной сьцяне замуроўвалі нябожчыка, намалявалі патрыяршы крыж XI ст. (20, мал. 151).





Недалёк Ноўгарада стаяла царква сьв. Спаса ў Нерэліцы. Дасьледчыкі кажуць, што фрэскі ў Нерэліцкай царвке вельмі добра зьберагліся ў арыгінальным выглядзе. У алтары фрэска — Богмацер Вялікай Панагіі,на грудзях Хрыстос, над галавой прэстол з патрыяршым крыжом. У інтэр'еры царквы фрэскі сьв.Варвары, Лідзіі, Лаўрына, воіна Іоана, Сазонта (мэдальён) —усе у руках трымаюць патрыяршыя крыжы. (24, мал. 79, 156, 162, 168,177, 178).











Сьв. Лаўрын, Нерэліцы

Годная ўвагі фрэска «Вадохрышча» зь Нерэліц. У вадзе Іардана патрыаршы Крыж (22, 125).





Першымі сьвятымі кіеўскай мітраполіі былі князі Барыс і Глеб. Яны былі забітымі ў 1015 г. кн. Сьвятаполкам.

Барыс і Глеб былі сынамі бізантыйскай прынцэсы Ганны, якую выдалі замуж за кн. Уладзімера Сьвятаславовіча. Пасьля сьмерці бацькі яны зьяўляліся прэтэндэнтамі на вялікі княжы кіеўскі пасад.

Праслаўленьне Барыса і Глеба пачалося 5 год пасьля забойства, а 20 травеня 1072 г. адбылася кананізацыя. Сьв. Барыс і Гелб на іконах да паловы XIII трымаюць чатырохканцовыя крыжы.

У палове XIII ст. зьявіліся іконы, на якіх Барыс і Глеб трымаюць шасьціканцовыя, патрыяршыя крыжы.

Пад канец ХУІ ст. Барыс трымае патрыаршы крыж, а Глеб васьміканцовы.

( 24 мал. .2; 25, мал.5)

Архіяпіскап наўгародзкі Грыгоры ў 1330 г. ад патрыярха канстантынопальскага атрымаў права на белы клобук і «кресчатые ризы».

Ён зрабіў для сабору ноўгародзкай Сафіі дзьверы медзяныя з пазалочанай гравіроўкай. На гравюры «Дабравешчаньня» на вышыні правага пляча сьв. Марыі патрыяршы крыж на Галгофе. На гравюры «Зыход Хрыста ў пекла» Хрыстос трымае патрыяршы крыж. (**26**, 404, 412)





У Пскове, у пакроўскай царкве экспэдыцыя з Эрмітажу праводзіла досьледы і выявіла фрэскі зь першай паловы XIУ ст. Сьвятыя трымаюць патрыяршыя крыжы (**27** 6).





У справаздачы Расейскага гістарычнага музэя за 1909 г. паведамляецца, што ў Разані была знойдзеная медзяная іконка «Вадохрышча». Яна з XIII ст, малюнак зроблены тэхнікай залатой наводкі (28, 132. 126)



У Горадні падчас археолягічных раскопкаў знайшлі царкву XII ст. На цэгле былі намаляваныя патрыаршыя крыжы. Такія-ж крыжы знойдзеныя на цэгле гарадзенскага замку (29. 126, 132)



У Смаленску цэгла царквы на Пераконным завулку зь першай паловы XII ст. мела клеймы, падобныя патрыршаму крыжу.(30, 112-113)





(Працяг у наступным нумары)

## Бібліяграфія


16. Мітраполит Макары. История Русской церкви. Спб. т.III.

17. Древности Российского государства, изд. по высочайшему повелению государства им. Николая I. М. 1849.

18. Записки отдела русской «славянской археологии Русского Археологического общества. Сборник. Спб. 1908, т.IX.

19.Батюшков П.Н. Памятники русской старины в западных губерниях империи. Спб. 1885, вып. УIII.

20 Powsenko O. The cathedral of St. Sophia in Kiev. New York, 1954.

21. Лазарев В.Н. Мозаики Софии Киевской. М.1960.

22.Lazarev V. Old Russian Murals and Mosaics , London, 1966,

23. Толстой I, Кондаков Н. Русские древности в памятниках исскуства. Спб. 1899 г.

24. Кандаков Н.П. Русская икона. Прага. 1929 г.

25. Talbot-Rice T. Russian icons. New York. 1963.

26. Лазарев В.Н. Васильевские врата 1336 г. Советская археология. Сборник. М.1953, т.ХУIII.

27. Белецкий В.Д. Работы псковской экспедиции государственного Эрмитажа Археологичесткие открытия за 1977 г. М.1978.

28. Монгайт А.Л. Старая Рязань. Материалы и исследования по археологии СССР (МИА). М. 1955, № 49.

29. Воронин Н.Н. Древнее Гродно. МИА, 41, М., 1954.

39. Каргер М.К. Зодчество древнего Смоленска. XII—XIII в. Л. 1964.



# ПАМЯЦЬ ЗЯМЛІ



## Калісьці ў Менску

*Кім быў гэты чалавек?*

*Палітыкам, які стаяў ля вытокаў стварэньня БНР і займаў пасады народнага сакратара земляробства, намесьніка старшыні Рады БНР, зьяўляўся надзвычайным паслом пры Украінскім урадзе.*

*Публіцыстам, аўтарам брашуры «Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя, яе мэты і задачы», у якой увасобіліся погляды прагрэсыўных дзеячаў Беларусі, адным з рэдактараў газэты «Грамада».*

*Вучоным, першым беларускім прафэсарам геаграфіі, аўтарам шматлікіх навуковых працаў і кнігаў, у тым ліку першага падручніка па геаграфіі Беларусі?*

*Настаўнікам на агульнаадукацыйных курсах «Глаўпрафасьветы», выкладчыкам у Беларускім дзяржаўным унівэрсытэце, розных навучальных установах, дзе ён працаваў у шматлікіх сылках, настаўнікам для будучых палітыкаў, публіцыстаў, вучоных.*

*Аркадзь Смоліч быў адначасова палітыкам, публіцыстам, вучоным і настаўнікам. 17 кастрычніка (па ст.ст) споўнілася 100 гадоў з часу яго нараджэньня і няпоўныя 53 гады, як ён быў расстрэляны ў г.Омску. Зь некаторымі штрыхамі да партрэта гэтай шматграннай асобы «Полацак» і знаёміць чытача.*

«Менск. 1916 год. Вайна зь Немцамі. На Захараўскай вуліцы № 24, супраць Новага Касьцёлу ў трохпаверхавым будынку крайнія дзьверы й вітрыннае вакно. Над вакном надпіс: «Саха й Лучынка». У вакне колькі кніжак і брашурак зь дзіўнымі загалоўкамі, нязвычнымі для вучаніцы тагачаснае менскае школы (расейскае, бо іншых ў у Менску ня было). Ды гэта мяне й ня дужа цікавіць наразе. Я прыйшла сюды атрымаць для жыцьця накроеныя салдацкія кашулі, бо тут Камітэт дапамогі ахвярам вайны.

—Чаму ты, дзяўчынка, не адказваеш мне па-беларуску, як я гавару? — зварачаецца да мяне, адлічваючы кавалкі мутна-жаўтаватай бязі, надзвычай ветлівая й прыемная маладая паненка.— Далікатнасьць вымагае адказваць у тэй мове, у якой да цябе зварачаюцца, ведама-ж калі ўмееш.

— Я не знаю,— зьмешана пралапатала я, прывыкшы, што ў афіцыйных установах трэба гаварыць па-расейску.

—Што ня ведаеш? Ня ведаеш, ці умееш? Пэўна-ж умееш! Па носе бачу, што ўмееш,—весела сьмяецца.— Глянь, тата, яна ня ведае ці ўмее па-беларуску

Старэйшы, але не стары яшчэ чалавек у сівой даматканай марынарцы, гляну вясёлымі шэрымі вачыма зь іскрынкай насьмешкі.

—Нічога, неўзабаве пазнае, што йнакш ня ўмее, а толькі па-беларуску. І зноў сьхіліўся над паперамі.

Гэта быў Антон Лявіцкі, наш пісьменьнік Ядвігін Ш. і ягоная дачка, Ванда Лявіцкая, пасьля жонка Язэпа Лёсіка. Ядвігін Ш. вельмі быў падобны да Францішка Багушэвіча, толькі больш прадаўгаваты твар, вайстрэшая бародка ды весялейшы пагляд.

Так сталася, што я засталася памагаць, замяняючы Ванду, якая мела шмат працы, больш для яе адпаведнай. Выдаючы хусьце, я бачыла, што сюды прыходзяць іншыя людзі, гавораць, раяцца, чытаюць лісты, спрачаюцца, цешацца або маркоцяцца. Гэта былі Уладыслаў Галубок, Зьмятрок Бядуля, Рамуальд Зям-

кевіч. Усе гавораць такой мовай, як у нас удома, але пра што — мне пятнаццацігадовай дзяўчыне з ускраіны Менску, мала зразумела: — Карэктуру прынесьлі... Рукапіс захавай... Набраць пэтытам... Пішуць зь Вільні... Адкажы ў Пецярбург... Ванда Лявіцкая вяла ўсё ліставаньне. Укладаючы свае літаратурныя здольнасьці, цеплыню свайго добрага сэрца й замілаваньне да кажнай праявы беларускага адраджэньня, яна адказвала на вельмі лічныя лісты й до пісы сваім прыгожым почыркам.

У суседнім пакоі быў музэй тканінаў, вакол якіх заўсёды клапаціўся Рамуальд Зямкевіч.

У міжчасе Ванда падсоўвала мне тую ці іншую кніжку. Гэта былі: Коласа выя «Песьні жальбы» й «Родныя зьявы», Максіма Гарэцкага «Рунь», Багушэвічава «Дудка беларуская», Багдановічаў «Вянок», «Курганная кветка» Буйлы, «Скрып ка беларуская» Цёткі, Бядулевы «Абраз кі», «Бярозка», Ядвігіна Ш., «Вязанка» Няслухоўскага, «Гусьляр» і «Жалейка» Янкі Купалы. Але найбольшае ўражаньне рабіла Купалавае «Шляхам жыцьця», часапіс «Маладая Беларусь», асобныя нумары газэты «Наша Ніва». Гэтыя кніж кі я чытала й давала чытаць сваім школь ным сяброўкам. Неўзабаве гэтая групка беларускіх дзеячоў займела драўляны будынак тут-ка блізка на Захараўскай 18. Гэты будынак і стаўся першай Беларускай Хаткай. Гэта была запраўдная хатка, «стол і дом» для беларускіх дзеячоў, што прыбывалі ў Менск.

Што сыботы ладзіліся вечарніцы — сыботнікі. Нас, школьнікаў, была каля дзесяцёх ды колькі юнакоў-чыгуначнікаў, якіх прыводзіў Галубок. Із старэйшых найбольш выразна помняцца Ядзвігін Ш., ягоная дачка Ванда, Бядуля й дзьве ягоныя сястры, Уладыслаў Галубок, панна Людзьвіка (пазьней жонка Фабіяна Шантыра) з маткай; неўзабаве зьявіўся Аркадзь Смоліч. Цікавы мэтад уплыву на нас выбралі гэтыя выдатныя людзі. Выглядала, што зьбіраюцца яны, выраслыя, а мы таксабе, радыя, што за прошаныя і можам тут быць.

У сьвятліцы, дзе ўдзень была страў ня хатніх абедаў, сталы й крэслы адсоўваліся да сьценаў. І мы, як вераб'і на дроце, масьціліся на іх.

—Што-ж можа пасьпяваем зыбраўшыся, —прапануе Лявіцкі.

—Але хто пакіруе?—цікавіцца Бядуля.

— Ну, хіба ўжо я, пакуль знойдзецца хто больш адпаведны. І на сярэдзіну пакою выходзіў Аркадзь Смоліч, малады, шыракаплечы, з буйнымі энэргічнымі ры самі твару. Выраслыя ўсе да аднаго, хто мог ці ня мог сьпяваць, станавіліся, клікалі нас перад сабой. Кажны сыбонік мы вучыліся па аднэй або па дзьве беларускія народныя песьні. Сьпяваць было найбольш улюблёным заняткам на нашых сыботніках. Гэта былі ня сьпеўкі з вучэньнем партыяў і муштрай. Проста сьпявалі на чатыры галасы, а выходзіла добра, таму сьпявалі шмат.

Нехта прапанаваў паскакаць. Старэйшыя бралі нас у пары. Той-жа самы Смоліч, патрасаючы ільвінай чупрынай, вучыў скакаць «Лявоніху», «Юрачку», «Кры жачка». Ведама, пасьлей мы скакалі самі але што гэта за скокі, скажам, бяз Галуб ка, які так лоўка ўмеў прытоптваць!

Бядуля не скакаў ніколі з намі, не дэклямаваў, затое сьмяшыў нас жартамі ды трапнымі мянушкамі.

Ніхто нам ня чытаў лекцыяў, не пера конваў, не агітаваў. Гэтыя выдатныя людзі выбралі найвайстрэйшую зброю— мас тацкае слова. Яны прамаўлялі да нас ву снамі нашых паэтаў-адраджэнцаў. Калі Смоліч дэклямаваў Купалава «Над Нёма нам» або Гарунова «Ты, мой брат, каго

зваць Беларусам»; калі Галубок дэклямаваў гарачыя Купалавы поклічы; калі Лявіцкая дэклямавала цёплыя Цётчыны ды Буйлянчыны творы — тут была й любасьць да пакрыўджанае бацькоўшчыны, і слаўная мінуўшчына яе, і пашана да сваё мовы. Гэта была для нас і навукай, і клічам, і праграмай дзейнасьці.

...У вадзін із такіх восеньскіх сыботнікаў зьявіўся Максім Багдановіч. Высокая, худая крыху суглобая постаць, павольныя рухі, бледны дробны твар. Сур'ёзны, спакойны пазірк хваравіта бліскучых вачэй. Ён быў мала падобны да тых фото, што мы знаходзім у нашых выданьнях. З папярэдніх размоваў, ды па тэй увазе, зь якой яго спаткалі старэйшыя, мы зразумелі, што гэта вялікі чалавек ды пранікліся глыбокай пашанай да яго. Максім Багдановіч сядзеў на нашых вечарніцах ціха, бязмоўна, бязудзельна, толькі па ледзь значнай шчасьлівай усьмешцы, якая квола зацьвітала на ягоных вуснах, мы здагадваліся, што ён цешыцца з нашых сьпеваў, скокаў, асабліва з дэклямацыяў. Аднойчы нават прачытаў сваю «Скандынаўскую песьню». Незабыўная сцэна аднэй вечарыны канца 1916 г. Нейк у сярэдзіне вечарыны Смоліч папрасіў усіх сесьці.

—Я маю прачытаць верш, новы твор. — Тон голасу нізкі, прыцішаны.—Аўтар прасіў не называць яго імя. Смоліч урачыста, ціха прачытаў «Пагоню». У прыцемненым з поваду ваеннага часу пакою, панавала абсалютная ціша. Пасьля нясьмелае: «Хто гэта? Хто напісаў? Старэйшыя абступілі Смоліча, зашумелі. — Гэта небывалае ў нашай... ды што ў нашай — у сусьветнай літаратуры... Хто аўтар?

—Я зьвязаны словам, я сказаць не магу. Пастарайцеся здагадацца.

—Прачытайце яшчэ раз! Гэта... гэта не заходзіць словаў Ядвігін Ш. Цяпер ужо Смоліч ня чытае, а праймкненна дэклямуе. Закончывае амаль скандуючы: «Старадаўняй літоўскай Пагоні ні разьбіць, ні спыніць, ні стрымаць...»

—Гэта можа быць або Янка Купала, або... або наш Максім! —выпаліў Лявіцкі.

—Ён, — каротка кінуў Смоліч.

А ў другім канцы пакою сядзіць аўтар, усхваляваны, ледзь усапляючы паве тра сваімі хворымі грудзьмі.

—Вось цяпер я маю права публічна прывітаць Вас із нованароджаным вялікім творам,—і тонкая рука Маскіма Багдановіча згубілася ў буйнай энэргічнай руцэ, а затым ўся ягоная постаць патанула ў шырокіх абдымках Смолічавых рамёнаў

—Ды пусьці ты, мядзьведзь, бароніць Бядуля, адпіхаючы Смоліча, намагаючыся падайсьці, прывітаць аўтара. Але Багдановіча ўжо вітае Лявіцкі.

—Ну, калі такое маглі напісаць, то Вам і зусім паміраць нельга, — выпаліў з узварушаньня гарачы Галубок, і тутжа зразумеешы, якую дурніцу ляпнуў, заліўся сьлязьмі.

Тут Бядуля падыйшоў да Багдановіча з шырокай усьмешкай на мяккім твары.—Дык кажаш: «Ні разьбіць, ні спыніць, ні стрымаць»...Хе-хе, сакол!—і паціскаючы яго руку, папляскаў па плячы.

—Можа папросім, каб аўтар сам прачытаў свой твор,—запрапанаваў Смоліч.

—Аўтара, аўтара! — панеслася шумна з усіх бакоў. Але Багдановіч адмовіўся. Ён адчуваў сябе зьняможаным.

Ваенныя й палітычныя падзеі 17-га году спынілі вечарніцы. Праца прыняла іншыя формы й характар. Але гэтыя сустрэчы далі нам аснову беларускага сьветагляду. Там мы пазналі, — хто мы, знайшлі ідэю мэту жыцьця і працы, навучыліся любіць і шанаваць усё беларускае й кажнага ідэйнага Беларуса.»

А.С.

«Беларуская моладзь», 1960, № 8.




Мастак Пашкевіч з сям'ёй падаўся спачатку ў Вільню, потым у Коўна, а праз нейкі час яны мусілі хутка кінуць усе карціны й іншыя рэчы і паехаць падалей ад Чырвонай арміі, якая хутка шла на Захад — насустрач другому фронту. Пашкевічу было лягчэй арыентавацца, бо яго цёшча добра ведала нямецкую мову, можа так-жа добра, як і сваю родную літоўскую. Пагэтаму яны апынуліся ў зоне амэрыканскай акупацыі. Абставіны склаліся так, што праз гады Пашкевіч быў прэзыдэнтам акадэміі мастацтва ў г.Філядэльфіі. Як мастак і грамадзянін, ён ня меў за сабой ніякай віны, але добра ведаў, што НКУС ніколі не даруе яму, ардэнаносцу, сябру партыі тое, што ён не пайшоў у партызаны. Дзякуй богу, усе скончылася як у казцы. Галіна Дакальская сама адшукала сваю сястру Берту праз знаёмых з Коўны, дзе яны былі на кватэры.

Мастак Міхась Навумаў і яго жонка трапілі ў іншую сытуацыю. З Навумавым я пазнаёміўся, калі рыў разам зь іншымі мастакамі вялікі катлаван па вул. Саломеннай. Тады нас прывезьлі з рыдлёўкамі на машыне, да гарадзкога тэатру — месца збору артыстаў, мастакоў і яшчэ невядомых нам людзей. Немец з аўтаматам сачыў за намі, каб не вельмі часта спыняліся на адпачынак. Памятаю, як да мяне наблізіўся нейкі незнаёмы чалавек і назваўся мастаком Навумавым. Ён сказаў, што вучыўся ў Віцебскім мастацкім тэхнікуме разам з маім братам і ведае мяне, калі я вучыўся там апошні год. Навумаў тады расказаў мне, што калі савецкія войскі набліжаліся да Віцебску, ён мусіў па кінуць горад і прыехаць у Менск. Зараз ён запрашаў мяне да сябе, каб нешта мне паказаць. Я лёгка знайшоў яго дом па вул. Мясьнікова, Як мне здалося, акрамя Навумава там болей ніхто не жыў. Тое, што ён мне паказаў было так неспадзявана, што я спачатку не паверыў сваім вачам. Навумаў раскруціў рулон палатна, на якім аказалася вядомая копія з карціны Рубенса, што была ў мастацкім аддзеле этнаграфічнага музея ў Віцебску. Усе студэнты мастацкага тэхнікума ведалі гэтую копію. На ёй дачка корміць грудзьдзю свайго бацьку, закаванага ў ланцугі. Копія была вельмі добра выкананая, і драматычнасьць перадавалася, дзякуючы майстэрскаму выкананьню сутарэньня, каляроваму настрою, клясычнаму малюнку. Адным словам, копію ўсе прымалі за арыгінал. Далей Навумаў паказаў мне яшчэ два творы мастака Клевера — на палатне якога пэйзажы вячэрніх сонечных закатаў узімку, бярозавы гай сакавіта перадаецца без умоўнасьцей — вельмі рэальна. Я спытаўся ў мастака: «Чаму і як апынуліся ў цябе гэтыя творы?» «Рабавалі музэй усе. Адныя зьдзіралі скуру з крэслаў, другія фіранкі й абітак, трэція

---

Працяг. Пачатак у № 5, 6-7, 8.

несьлі посуд. А я з падлогі падбіраў карціны — вось яны зараз у мяне».

Потым Навумаў з жонкаю бег зь Менску. Ад каго і чаму бег, мне невядома, але чаму пры рэпатрыяцыі назваў Менск, а не Віцебск, зразумела. У Менску яго ніхто ня ведаў. Але яму зноў не пашчасьціла. Здарылася так, што ў памяшканьні НКУС на пляцу Волі загарэлася навагодняя ялінка. Трагедыі магло-б і ня быць, калі-б дзьверы ў залі адчыняліся не на сябе. У паніцы дзеці і дарослыя напіралі на дзьверы знутры і тым самым замыкалі самі сябе на пагібель. Дзеці кідаліся ў расчыненыя вокны, калечыліся. Толькі юнакі мастакоў Ахрэмчыка й Азгура спусьціліся па вадасточных трубах ўніз. Навумаў быў адзін з тых, хто афармляў навагоднюю ялінку. І тут, вядома, схапілі яго й ягоную жонку. Хаця больш за ўсіх быў вінаваты Цанава, бо менавіта ён дазволіў рабіць ялінку ў памяшканьні, дзе дзьверы адчыняліся не так, як у глядзельнай залі, а лесьвіца на другі паверх мела дротавую сетку, як перасьцярога ад пабегу ці самагубства. Такім чынам, схапілі ды выслалі ня толькі Навумава. Ахвярамі сталі і тыя энкавэдэшнікі, што не ўгледзелі за тым, хто запаліў цыгарэтку. Дзесяць гадоў аддаў Навумаў розным лягерам, дзе як мастак працаваў за баланду. Працавіты і таленавіты мастак- афарміцель быў прыняты пазьней у Саюз мастакоў, удзельнічаў у мастацкіх выстаўках, дзе выступаў як станкавы графік. Ужо прайшло 12 гадоў з таго часу, як Міхася Навумава пахавалі. Але сакрэт, што гнала яго з роднага гораду Віцебска ў Менск, а потым далей у Нямеччыну, так і застаўся нераскрытым.

Зараз давайце азірнемся назад, да тых часоў акупацыі, калі адзін немец прадстаўляў мяне другому як мастака-партрэціста. Той першым чынам задаваў мне пытаньне, чаму я не салдат і ці маю жонку і дзяцей. Я ўжо даўно прызвычаіўся да такіх пытаньняў і меў адказы адны і тыя-ж. Вядома, я хлусіў, калі казаў, што ў нас народу многа і таму ня ўсіх мастакоў бяруць, а па-другое, у нас чамусьці не было эвакуацыі. На пытаньне аб сям'і казаў, што маю жонку, аднаго сына, маці і брата мастака. І ў апошнім хлусьні ніякай не было. Мае адказы супакойвалі. Адразу пачыналася ласкавае абыходжаньне, каб спадабацца мастаку, бо ад яго залежыць усё ў партрэце. Пэўна, што цікавасьці да гэтае працы ніякай не было. Плата малая, але не грашыма, а прадуктамі харчаваньня, найчасьцей кансэрвамі розных гатункаў, сахарынай, цыгарэтамі. Чакаць нечага большага не прыходзілася, бо аднасэансны партрэт на кардоне каштуе няшмат. Маленькі эцюдзік з фарбамі ды настольны мальбэрт у партфэлі — вось усе мае рэчы. Нярэдка спыняў мяне шуцпаліцай (палявая паліцыя), адчыняеш эцюднік, паказваеш, што там ніякай узрыўчаткі няма і ідзеш далей.

Сказаць, што ўсе мастакі, якія апынуліся ў акупацыі ў Менску ведалі, хто, дзе жыве, хто, дзе працуе ці, тым больш, зьбіраліся разам, нельга. Як і не было таго, каб хто-небудзь з нас кіраваў падпольлем, як арганізацыяй, меўшай пэўныя сувязі зь Менскім партыйным падпольлем. А калі што і было, то рабілася паасобку, сувязь была пэрсанальная праз вельмі знаёмага чалавека або сваяка. Інакш быць і не магло. Недавер чалавека адзін да аднаго склаўся яшчэ з часоў сталінскага хапуна, а ў часы акупацыі недавер быў правамерны — той вораг, які раней быў за мяжой — зараз існуе побач. Мастакі амаль не зьбіраліся ўсе разам. Памятаю толькі сьвяткаваньне 1 мая 1943 года. Немцы прымусілі прымаць у ім удзел ўсіх службоўцаў,

рабочых прадпрыемстваў, усіх мастакоў і артыстаў. Шэф аддзелу мастацтва загадаў склікаць у камісарыяце мастакоў, што былі на ўліку ва Ўправе. Спачатку ён выдаў нам па пачцы махоркі і праз перакладчыцу паставіў задачу зрабіць на чырвоным палатне зь дзесятак лёзунгаў да першага мая. Ніхто з нас не пісаў гэтых лёзунгаў да вайны, бо не было патрэбы займацца такой дармовай працай. Па-другое, іх проста ніхто не ўмеў пісаць. Да таго-ж з плякатамі нікому не хацелася пэцкацца, тым больш, што наганам нам не пагражалі. Вядома, шэфу ўся нашая гаварыльня не падабалася. Ён мала верыў, што мастак ня можа пісаць і рабіць такую нескладаную працу. Скончылася нашая гаворка тым, што я і мастак Алтуф'еў паабяцалі шэфу перакласьці гэтыя плякаты на майстэрню па шыльдах, якая была ў канцы Камсамольскай вуліцы, на рагу зь Нямігай.

Як аказалася потым, майстэрня тая захавалася, але не было тых, хто мог-бы рабіць шрыфтавыя лёзунгі. Шэф, якому мы даклалі абстаноўку, крычаў нам: «Сабатажнікі!» і яшчэ нешта па-нямецку. Але дэманстрацыя адбылася. Мастакам далі адну палутарку, а каб было зразумела, што на ёй стаяць майстры пэндзаля і фарбаў, мастак Каржанеўскі усьцягнуў на машыну свой вялікі мальбэрт. Дэманстрацыя не абыйшлася без фатаграфаваньня, што вельмі нагадвала кіназдымкі ў першыя дні акупацыі, калі ў галодны натоўп кідалі сухары. Штучнасьць гэтых дзеяў была бачна ўсім. Успамінаецца, як адзін салдат з вэрмахту, праходзячы ўздоўж невялікай калёны прабурчаў: «Фальш».

І ўсё-такі некалькі чалавек мастакоў зьбіраліся на кватэры мастака Мікалая Гусева — старэйшага за нас, меўшага вялікі жыцьцёвы і творчы вопыт, ды і наогул вельмі сімпатычнага прыцягальнага да сябе сябра. Так, аднойчы ў першыя месяцы акупацыі, калі я знаходзіўся на кватэры Гусева, да яго забег скульптар Бразэр. Першае, што ён сказаў нам, было: «Чаго вы сядзіце, бачыце вось у мяне банка кансэрваў — зарабіў за хуткі малюнак тушшу аднаго вайскоўца». Ён сьпяшаўся, але дадаў: «Маю пропуск на выхад з гета, атрымаў яго ад камітэта яўрэйскага гета». Пры гэтым ён адхіліў улева лацкан пінжака, дзе быў прышыты жоўты кавалак тканіны замест зоркі Давіда. Мы глядзелі на гэтага заўсёды жвавага чалавека, які сваім выглядам гаварыў нам: «Трэба змагацца за жыцьцё ў розных абставінах»—і разумелі, што ён мае рацыю. Прайшло некалькі тыдняў і ў Гусева як партрэтыста было шмат працы. Пісаў ён хутка, падабенства было амаль як у фатографа. Пры гэтым бездакорная трапнасьць і пунктуальнасьць, што вельмі падабалася немцам— афіцэрам ды асабліва салдатам.

Да Гусева пачалі заходзіць славакі, казармы якіх былі па вуліцы Лагойскага тракту. Ад іх нам стала вядома, што славацкі прэм'ер Цісэ даў згоду, каб даць свае войскі на ўсходні фронт у дапамогу Гітлеру. З славацкіх вайсковых аддзелаў, частку кідалі на барацьбу з партызанамі, але потым прыпынілі карацельныя аперацыі, бо вельмі шмат было салдатаў, што пераходзілі на бок партызанаў.



Аднойчы я ішоў па Савецкай вуліцы, якой фактычна ўжо не было — адны руіны —і раптам трапіў пад моцны дождж. Я пабег да нейкай будкі, пад страхой якой ужо стаялі дзяўчынка-школьніца і салдат-славак. Славак пытаўся: «Ці праходзілі яны гісторыю, дзе французы ў 1812 годзе ішлі на Маскву, нават захапілі яе ў полымі агню, але мусілі ісьці ўзімку, праз лясы ды сьнежны стэп. Шлях быў далёкі, праз Беларусь, дзе мужыкі ды бабы зь віламі ды косамі гналі іх назад...» Я слухаў таго славака, які быццам-бы для мяне, а не для дзяўчыны пачаў тую гаворку пра Напалеона. Відаць, славак даўно прыйшоў да гэтай аналёгіі, але ў яго не было слухачоў, якім- бы ён мог паведаміць свае думкі.



Менск 1942. (Фота з калекцыі Р.Галяк)

Славакі сустракалі ў Гусева іншы раз Анатоля Сапетку, маладога мастака, які трымаўся неяк вольна, быццам нікога не баяўся. Ён лёгка ўступаў у размовы з славакамі, ды яны і самі былі гаварлівыя людзі. Аднойчы, ідучы разам ад Гусева, Сапетка папрасіў даведацца, што за нямецкая ўстанова ў канцы Нізкага завулка разьмяшчаецца ў былым будынку дзіцячага сада, у такім-жа доме па Дрэваапроцоўчай вуліцы быў «дамянлазарэт» — жаночая бальніца. Сапетка прасіў пацікавіцца іншымі ўстановамі, што паблізу майго дому. Гэта грэба было даць яму у тэрміновым парадку. На жаль, пасьля гэтай размовы я болей не сустракаў Сапетку аж да самага канцу вайны. Сталася так, што яго нехта выглядзеў і данёс ў гестапа. Так ён апынуўся ў Менскай турме. На пераходзе праз турэмны двор ён сустрэў мастачку Людмілу Зданоўскую, якая хутка сказала аб сабе тое, што ёй далі на выбар ці сядзець у труме, ці ехаць у Нямеччыну. Тады мы аб Зданоўскай таксама нічога не ведалі. Зданоўская— жывапісец разам з сваім мужам Ягорам Ізмайлавым — скульптрам, беглі зь Менску, але выйсьці далей Смаленску ім не далі нямецкія войскі. Як потым стала вядома, яны адчынілі майстэрню — партрэтнае атэлье, дзе Зданоўская пісала партрэты нямецкіх афіцэраў, нават генералаў, а Ізмайлаў рабіў адначасова фотапартрэты ўсіх «кліентў» ды са зьвесткамі аб іх пераправуляў за лінію фрона, да савецкіх перадавых злучэньняў. Здарылася так, што нехта іх выдаў. Іх чакаў суд, але следства вяло гестапа, якому, нарэшце, перашкодзіў моцны наступ савецкіх войск на Смаленск. Можна толькі дзівіцца, чаму гестапаўцы прывезлі разам абодвух мастакоў у Менск і кінулі іх у лягер палітычнанебясьпечных, што быў на Чырвонай вуліцы, на Камароўцы. Потым, праз нейкі час, Зданоўскую перавезлі ў менскую турму, а Ізмайлава пакінулі на Чырвонай вуліцы. Аб тым, які цьвёрды характар меў Ізмайлаў можна меркаваць па такім эпізодзе. Намесьнік начальніка лягера, які добра валодаў расейскаю моваю, пажадаў, каб скульптар выляпіў яго бюст. Сэансы адбываліся ў кабінэце. Як апавядалі збегшыя з гэтага лягера два чалавекі, немец паставіў пе-

рад Ізмайлавым некалькі літраў гарэлкі, маўляў, пей, колькі хочаш. У часы работы паміж імі шла ўвесь час размова на высокай ноце. Намесьнік пытаўся: «Скажы, Ізмайлаў, а калі-б я да цябе трапіў, ты-б пашкадаваў кулі і засёк мяне, ці застрэліў?» «Засёк-бы» — быў адказ. Трэба дуамць, што ад Ізмайлава гестапаўцы не пачулі ніводнага слова здрады.

У апошнія дні перад адступленьнем з Менску гестапаўцы сталі вывозіць у душагубках сваіх ахвяраў некудысь за горад. Тыя былі атручаныя газам з выхлапных трубаў, без адзінага стрэлу ў патыліцу, як гэта рабілася ў іншых выпадках. Ёсьць такая думка, што Ізмайлаў загінуў менавіта ад газаў душагубкі, бо нехта бачыў, як машына за машынай адвозіла людзей зь лягера, што быў па вуліцы Чырвонай. (Тое самое было з Галінай Левінай і маленькімі яе дачкамі).

Раптоўная вайна застала невялікую групу мастакоў зь сем'ямі на вёсцы ля Пухавічаў. Вёска адпавядала добраму месцу адпачынку—яна была ня вельмі далёка ад Менску, і ў ёй было ўсё, што трэба пэйзажысту. Частка з тых мастакоў спрабавала ўпешкі ісьці на Ўсход, але нічога з таго не атрымалася. Людзі вярталіся не ў Менску, а на вёску, бо ведалі, што ў горадзе згарэла кватэра, а па-другое, як пражывеш без харчоў?

Час ішоў, савецкія дывізіі адступалі. Трэба было прыстасавацца да новых умоў, але як, вось дзе пытаньне. Мастак Гусеў з жонкаю ды з двума дачкамі вярнуўся ў Менск. Мастакі Алтуф'еў з сям'ёй, Станкевіч, Пашкевіч з жонкай мастачкай Галінай Дакальскай, з пляменьніцай і з маткай, Сухаверхаў з жонкай мастачкай Лі й яе сынам засталіся на вёсцы. (Мастачка Сафія Воўкава ў свой час вышла замуж за лётчыка карэйца Лі, але зарана стала ўдавою з маленькім сынам Герам. Яна скончыла Віцебскі мастацкі тэхнікум, а пасьля працавала на гузікавай фабрыцы КІМ, дзе рабіла эскізы гузікаў). Мастакі Сухаверхаў і Станкевіч пісалі іканастас для Пухавіцкай царквы, а іншыя малявалі абразы і неяк, бог ведае чым, жылі.

Аднойчы позна ўначы да хаты, дзе жыў Сухаверхаў з сям'ёй, зьявіўся з групаю партызанаў камбрыг Філіпскіх (герой Савецкага Саюза) ды загадаў, каб не пазьней як заўтра яны былі ў лесе. «А калі не зьявіцеся, дык вас чакае вось гэта»,—камбрыг ускінуў да столі свой аўтамат і патрос ім перад носам перапалоханага Сухаверхава. Прыйшлося пад парадкоўвацца. (Як потым мне казаў нябожчык мастак Шутаў, паліцаі спалілі хату Сухаверхава, а разам зь ёю і матку Сафіі Лі). Па сутнасьці, Сухаверхаў ні ў якіх партызанскіх дзеях не прымаў удзелу. Ён лічыўся хворым на страўнік, а пагэтаму маляваў у брыгаднай газэце. Сафія працавала па асьветніцкай працы, а можа ў лазарэце. Калі пасьля вялікіх баёў па выхадзе з блякады камандаваньне запрасіла Маскву, каб параненых самалётам адправіць на вялікую зямлю, Цэнтр даў радыяграму: «Прысылайце параненых, Лі, Сухаверхава». Вядома, адправілі параненых, а Лі засталася з Сухаверхавым у брыгадзе да канца вайны.

Інакш паступіў у падобным выпадку мастак Абрам Бойка. Калі адпраўлялі ў Маскву параненых партызанаў, ён, калі ніхто ня бачыў, улез у самалёт і захаваўся паміж парашутных цюкаў. Так ён і апынуўся ў Маскве. Некалькі пазьней, калі ён жыў пры музеі Вялікай Айчыннай вайны, ён паказваў фота, на якім Калінін уручаў яму ордэн Чырвонай зоркі. Бойка быў ня столькі масткак, колькі фатограф. На сьцяне ў яго пакойчыку было шмат фатакартак, дзе ён пазіраваў з аўтаматам ў поўнай партызанскай форме. Неяк няёмка я адчуваў сябе, калі разгля

даў гэтыя фота. Усё-такі гэта была сама рэклама ці, як кажуць зараз, паказуха. Гэты мастак ці фатограф не ўваходзіў у той спіс майстраў выяўленчага мастацтва, якіх адклікалі ў распараджэньне штаба партызанскага руху. Фактычна ён быў дэзерцірам, але, нягледзячы на гэта, ён атрымаў ордэн Чырвонай зоркі. Вядома, што так паступалі адзінкі. Такія мастакі як Зайцаў, Глебаў, Бембель ваявалі на фронце. Скульптар Глебаў быў нават паранены, ён хадзіў у кулямётчыках і, як кажуць, бачыў сьмерць сваімі вачыма. Мастакі Гаўрыленка, Красоўскі былі ў тылу, займаліся рознымі справамі, якія ніякага дачыненьня да фронту ня мелі. Абодва апынуліся ў Сьвярдлоўску і зьявіліся ў абкаме ў першага сакратара Сьвярдлоўскай вобласьці Кулагіна (У Беларусі ён быў другім сакратаром ЦК КПБ), які строга ім зазначыў: «Ваша месца на фронце, бо вы сябры партыі. Скульптар Рапапорт яшчэ не апамятаваў ад жахаў, якія яго агарнулі ў Варшаве». Гэта былі слушныя заўвагі і парады мастакам-партыйцам.

Начальнік штаба партызанскага руху, генерал П.Панамарэнка (да вайны першы сакратар ЦК КПБ) адклікаў работнікаў культуры з розных часьцей у часы вайны да штаба, каб скарыстаць іх, як ён казаў, у тылу ворага ў тых-жа партызанскіх злучэньнях, што дзейнічалі на ўсёй тэрыторыі Беларусі. Гэта была адгаворка, каб мець права адклікаць з фронту мастакоў, артыстаў, літаратараў, вучоных, інжынераў, будаўнікоў і архітэктараў (прыгадаем архітэктараў Караля і Заборскага), адным словам — спэцыялістаў усіх галін, каб распачаць адбудову нашай рэспублікі ў пасьляваенны час.

Пад Масквою, на Стрэльні, дзе дыслацыраваўся штаб партызанскага руху, знаходзіліся многія з партыйных і савецкіх кіраўнікоў, таксама сябраў партыі. Яны жылі ў гасьцініцы «Масква», іншыя — меньш важныя асобы — разьмяшчаліся ў «Явары». Кожныя зь іх атрымоўвалі добрыя пайкі па картках літары А, што адпавядала рацыёну амэрыканскіх вайскоўцаў. На кожнага ў харчы ўваходзіла нават растваральная кава і жавальная гумка, не кажучы ўжо пра каўбасы, сыры, сухое малако й інш. Вядома, што не ўсе сядзелі ў гасьцініцах, шмат з членаў ЦК і СНК БССР знаходзіліся ў дзеючай арміі. Але як там ні было, асноўнае кіраўніцтва часова было ў эміграцыі ў Маскве і чакала, каб вярнуцца дахаты.

Менавіта ў гасьцініцы Масква загінуў наш паэт Янка Купала. Як яшчэ казалі, пры загадкавых абставінах. Многа ўжо пісалася аб гэтай трагічнай сьмерці. Рабіліся розныя высновы, але толькі так, што акцыя гэтая была насільніцкая. І чамусьці не прымаюцца да ўвагі тыя бяспрэчныя доказы сьведак, якія пры гэтым былі і ўсё бачылі сваімі вачыма. Нікому не хочацца паверыць у тое, што такі вялікі паэт загінуў так недарэчна, амаль без усякай важкай прычыны.

Мой даўні сябра, архітэктар Герогі Заборскі паведаў аб гэтым сумным дні так: «Купала чакаў гасьцей да свайго юбілею на абед, што меўся быць у ягоным нумары, дзе ўсё было падрыхтавана. Ён чакаў на лесьвічнай пляцоўцы не адзін, яшчэ былі там людзі, як і заўсёды. У той дзень, відаць было, ў Купалы настрой быў добры, стаялі, гутарылі, чакалі іншых, каб разам увайсьці ў нумар»...

Тут я мушу спыніць сваю гаворку, каб зьвярнуць увагу тых, хто ніколі не быў у гасьцініцы «Масква». Шырокая лесьвіца, поручні, вельмі нізкія, ідуць уверх і ўніз да тумбы, таксама нізкай — сантымэтраў 65, ня болей. Прамежак між поручнямі шырокі, варта спіною зрабіць адзін крок, спатыкнуцца аб тумбы, і ты ляціш між поручнямі ўніз. Колькі разоў

я стаяў на тых пляцоўках, і ў вачах маіх уставала тая карціна, так ясна і бяспрэчна, што становіцца цяжка на душы, калі прыходзіш з халодную развагаю да такіх высноваў — іншага быць не магло. Загорскі сьведка — спытайцеся ў яго.

Да 1932 года я ведаў Купалу толькі па ягоных творах, а калі ўвайшоў у сям'ю Галубка, то бачыў яго часьцей у Доме пісьменьніка, што быў на рагу вуліц Савецкай і Карла Маркса. У тым годзе я скончыў мастацкі тэхнікум, а ў наступным быў прыняты ў сябры Саюза савецкіх мастакоў БССР. Сувязі зь пісьменьнікамі былі тады больш блізкімі, чым сёньня, бо ўсе мастакі, жывапісцы, графікі, нават скульптары, праходзілі праз Белдзяржвыдат і мелі магчымасьць атрымаць заказ на афармленьне кнігі, пачынаючы ад шрыфтавой вокладкі і да ілюстрацыяў усёй кнігі. Іншай арганізацыяй, якая магла аформіць заказ на выканьне любых відаў мастацтва, як афармленьне клубаў, дэманстрацыю пар трэтаў, сельскагаспадарчых выставак і іншых працаў — быў прафсаюз РАБІС работнікаў мастацтва. Ніякіх мастацкіх майстэрняў, выканаўчых, а тым больш творчых не было, так як і Дома мастакоў ці выставачных заляў. А вось Дом пісьменьнікаў даваў нам мажлівасьць правесьці зьезд мастакоў, які лічыўся першым, ды некаторыя выстаўкі асобных мастакоў, у тым ліку выстаўку Уладзіслава Галубка.

Не магу дакладна ўспомніць, дзе я пачуў, як чытае свае вершы Янка Купала, мабыць, у Доме пісьменьнікаў. Ведаю, што Купала не вельмі любіў чытаць сам, мабыць, сароміўся, а мабыць, лічыў, што артыст зробіць лепш за яго. Хутчэй за ўсё то і другое разам. Мы-ж ведаем, што Купала наогул не любіў выступаць з прамовамі. Бо навошта яму на людзях выкладаць свае думкі, якія ляцяць у паветра і там губляюцца? Ці ён зьмяняе свой пісьмовы стол, той спакой, што спрыяе толькі адной мэце — той песьні, якая пакуль што гучыць не для ўсіх, а ў сэрцы, на эстраду, дзе яго сустрэнуць усе як артыста, пачнуць пляскаць у ладкі, наробяць шуму, а для чаго? У той час, праўда, наадварот лічылася, што калі ты маеш пастаўлены голас і можаш выступаць на розныя тэмы — дык ты актывіст, цябе паважаюць, цябе выбіраюць, бо ты патрэбы чалавек. Купалу заўсёды запрашалі ў прэзыдыюм розных сходаў ці вечароў, дзе павінны былі сядзець усе знакамітыя людзі. Гэтая прадстаўнічасьць давала сходу саліднасьць і трапіць на яго лічылася заўсёды вялікім уласным дасягненьнем.

Зачастую, чалавека, які упершыню слухаў вершы ў выкананьні Купалы, пасьцігала пэўнае расчараваньне. Мана тонны глухі голас, ды і ні кожнае слова выгаварваецца так яскрава, як трэба. Нават сэнс верша ўхапіць цяжка, застаецца толькі разглядаць паэта, як стаіць, як трымае рукі, чаму не растаецца з сваім кійком...

Ад жонкі я ведаю, што Купала любіў слухаць, як яна чытала ягоныя вершы, як выразна гучалі яе словы, перходзячы у гукі пачуцьцяў. Сэнс вершу ўзрастаў нават ад жэстаў рук. Галубок не здарма браў з сабою сваю дачку ў Менскі Белпэдтэхнікум, каб яна чытала вершы Купалы перад студэнтамі пасьля лекцыі аб тэатры, аб літаратуры ў сцэнічным мастацтве. Быў такі выпадак. Цётка Уладзя ўзяла да сябе Люсю Галубок на некалькі дзён, каб вывучыць вершы Купалы пад яе кіраўніцтвам. У гэытм дзіўнага нічога не было, бо Люся яшчэ не мела вопыту трымацца перад гледачамі тэатру. Рэпетыцыі праводзіліся ў Доме першага зьезду РСДРП, дзе тады жылі Купалы. Цётка Уладзя, як настаўніца ў мінулыя

гады, валодала сакрэтамі падыходу да дзяцей — ёй лёгка было працаваць з таленавітай дзяўчынкай. Можна сабе ўявіць, як хвалявалася Ўладзіслава Францаўна за кулісамі ў вечар прэм'еры. Але усё абыйшлося добра і з таго часу маленькая актрыса мела сваё амплуа.

А вечар гэты быў прысьвечаны Юзэфу Пілсудскаму, які сядзеў у ложы гарадзкога тэатра, абапіраючыся на шаблю. Ён глядзеў на маленькую дзяўчыку і праз свае вялікія вусы усьміхаўся. Мабыць, падабаліся яму словы і тая дзяўчынка, што так добра чытала купалаўскі прывітальны верш.

«Гэты вечар, — кажа Люся Галубок,— запомніўся мне болей за ўсё. Бо гэты вусаты дзядзька кінуў кветкі да маіх ног, а потым доўгі час пляскаў у далоні стоячы. А сотні людзей, глядзелі на тую ложу, на Пілсудскага, на яго ад'ютантаў, адукаваных палякаў».

Казалі, што беларускія ўрадаўцы сустракалі Пілсудскага хлебам-сольлю. Тады ніхто не ведаў да каго далучаць нашую маленькую дзяржаву, бо заходні край, як у Расеі называлі нашую Беларусь, не меў узброеных злучэньняў, дакладных межаў і моцных юрыдычных правоў. Быў гэта пачатак 20-х гг.

Ужо значна пазьней, калі тэатр Галубка меў твар вандроўнага, дзеці заставаліся дома, бо зімою школа, а не тэатр была заняткам. Але ў тыя часы, калі ў Менску даваў гастролі Галубкоўскі тэатр, дзеці зноў пачыналі прапускаць школу. Усё ішло на тэатр, а школа станавілася на другое месца. Галубок не меў асабістага жыцьця, але і да членаў сям'і літасьці ня меў, выцягваў апошнія сілы. Гэты фанатычны падыход да справы тэатра ўласьцівы людзям не ўсім, а толькі выключным ў тых эканамічна цяжкіх умовах, якія склаліся ў тыя часы.

(Працяг у наступным нумары)




*25 лістапада, 80 гадоў назад, на станцыі Джусалы ў Казахстане нарадзіўся Яўген Ціхановіч. Мастак ад Бога, Беларус ад бацькоў. Дзіцячыя гады яго прайшлі ў Челкаре, Арыенбургу, Бузулуке, потым у Петраградзе. У 1923 г. сем'я Ціхановічаў вярнулася на Бацькаўшчыну і з тых часоў Беларусь заўсёды ў душы Яўгена Ціхановіча. Яна ў кожным ягоным малюнку, партрэце, экслібрысе. У кожнай ягонай песьні, у якую ён уплятае багацейшыя арнамэнты беларускіх узораў, прыгожыя краявіды родных палеткаў і лясоў. Яўген Ціхановіч паказвае хараство беларускай прыроды, расказвае гераічную гісторыю змаганьня за незалежную Бацькаўшчыну. Беларусь і яе барацьбіты — вось асноўная тэма, якой ён прысьвяціў сваё жыцьцё. Гэтую тэму ён распрацоўвае ня толькі фарбамі, але і словам. Бо Ціхановіч — Песьняр таксама. Песьняр ад душы.*

*Рэдацкыя часопіса «Полацак» віншуе мастака і аўтара ўспамінаў Яўгена Ціхановіча з 80-годзьдзем і жадае яму творчых сіл, здароўя і натхненьня яшчэ на доўгія-доўгія гады.*

# Баляда аб школьным сябры

Леанід Крыгман

З Валодзяй Караткевічам я пазнаёміўся ў 1945 годзе, калі пачаў вучыцца ў 7 клясе Варшанскай школы №1. Мне было 13, яму 14, і ён вучыўся ў 8 клясе. Мы былі дзеці галодных ваенных і пасьляваенных гадоў. Худыя і заўсёды галодныя. Гэта потым Уладзімір стаў даволі-такі крупным мужчынам, а ў юнацтве адрозьніваўся ад сваіх часам і дарослых (па 18-20 гадоў!) аднаклясьнікаў, як кажуць цяпер, нязначнымі фізычнымі кандыцыямі. Усе мы былі апрануты даволі маляўніча, часам у што-небудзь ваеннае: зялёнае нямецкае або абароннае савецкае, заўсёды на шмат памераў больш, чым патрабавалася для нас. Ня быў выключэньнем і Валодзя.

Я пабачыў яго ўпершыню ў вялікай фуражцы, якая падала яму на вочы. Калі ён падымаў яе, можна было пабачыць яго вялікія, вельмі выразныя вочы, якія былі рознага колеру: адно шэрае, другое карае. Мне сказалі: «Гэта Валодзя Караткевіч». Сказана гэта было зь нейкім асобым зьместам. Праз некалькі дзён я зразумеў, што нягледзячы на кпіны з поваду добрага спалучэньня яго прозьвішча і росту, аднаклясьнікі вельмі паважаюць гэтага хлопчыка і гатовы заўсёды абараніць яго. Хутка я зразумеў, чаму.

Валодзя ў свае 14 гадоў меў літаральна энцыкляпэдычныя веды па літаратуры і гісторыі. У гэты час, калі бібліятэкі былі амаль што пустыя, вы маглі атрымаць усе неабходныя даведкі ў Валодзі. Іх ня трэба было правяраць, бо ўсё было дакладна. Гэта ў сучаснай школе больш за ўсё паважаюць спартсмэнаў, а ў 1-ай варшанскай у 1945 г. перавага аддавалася ведам.

Неяк хутка мы пасябравалі. У нашай кампаніі быў таксама Юра Падво, і мы хадзілі неразлучнай тройкай.

У 8 клясе я дагнаў Валодзю. Нашая матэматычка, Вольга Іванаўна, паставіла яму двойку па свайму прадмэту і пакінула на другі год. Гэтая тыповая школьная настаўніца тых сталінскіх часоў да ўсяга саромілася свайго беларускага паходжаньня і таму вымаўляла словы свое асабліва. Напрыклад, «дрёбь» «дотрягиваться», інакш кажучы, нават больш парасейску, чым гэта патрэбна было. Валодзя ня мог не смяяцца з гэтага і таму застаўся на 2-і год. Магу сьведчыць, хаця матэматыка і ня была яго любімым прадмэтам, але ён ведаў яе ня горш іншых, каго перавялі ў наступны кляс.

Валодзя быў разумны, вельмі таленавіты вучань, меў фэнаменальную памяць. Ён мог адзін раз прачытаць старонку тэксту і запомніць яго на ўсё жыцьцё. З школьных прадмэтаў ён больш за ўсё любіў гісторыю і літаратуру. Выкладала літаратуру Кацярына Іванаўна Грыневіч, вельмі добрая, шчырая настаўніца. Пасьля заканчэньня школы Валодзя пачаў перапісвацца зь ёю. І гэтая перапіска цягнулася да канца яго жыцьця. (Зараз К. І. Грыневіч жыве ў Кастрамской воб.). У той час Кацярыне Іванаўне было 28 год і яна была надзвычайны пэдагог. Разам зь ёю мы выпускалі альманах, у якім Валодзя стала зьмяшчаў свае вершы. Яго першыя творы былі напісаны настолькі таленавіта і па-майстэрску, што многія, хто пачыналі пісаць у альманах разам зь ім, скончылі займацца гэтай справай. Ён быў такім узорам для усіх, што творы іншых здаваліся бязглузьдзіцай. Акрамя таго Валодзя вельмі добра маляваў. Яго

сшыткі былі заўсёды размаляваныя на палях.

Кацярына Іванаўна вяла ў нас і драматычны гурток. Разам зь ёю мы паставілі гогалеўскага «Рэвізора».Валодзя граў Добчынскага, я Бобчынскага, а Юрка Пад во быў Хлестаковым. Пэўна, што роль у Валодзі была маленькая, але ён граў з поўнай аддачай і ахвотай. Шмат жэсьцікуліраваў, пастаянна імправізаваў. Пьеса карысталася вялікім посьпехам сярод гледачоў і ня толькі ў школе. Мы паказвалі яе ў Доме соцкультуры, вельмі пашкоджаным вайной будынку, у якім раней зьмяшчаўся ці то касьцёл, ці то манастыр, і нават ездзілі на гастролі ў суседні гарадок Барань. Валодзя быў ня толькі добрым акцёрам, але і сам спрабаваў пісаць для сцэны. Аднойчы Кацярына Іванаўна дала нам для хатняга заданьня напісаць п'есу. Хто накрымзаў на старонку, хто на дзьве, а Валодзя сваім мелкім почыркам сьпісаў увесь сшытак. Гэта была драма ў 3 актах. Так у 8 клясе ён амаль поўнасьцю напісаў першы варыянт п'есы «Млын на сініх вірах».

Валодзя пачаў пісаць вершы з 6 гадоў. Дарослым ён быў вельмі патрабавальным да сябе,перакрэсьліваў радкі бяс конца, шукаючы патрэбныя словы. Але ён мог напісаць верш на адным дыханьні, без адзінай папраўкі, як сапраўдны імправізатар. Сучасныя літаратары больш любяць слова «праца», чым «натхненьне», але Валодзя, на мой погляд, сучасным ніколі не быў. Ён больш падыходзіў для рамантычных часоў пачтаку XIX стагодзьдзя. Праўда, зь яго гордасью і гатоўнасьцю заступіцца за пакрыўджаных, ён-бы хутчэй за ўсё загінуў на якой -небудзь дуэлі, як Лермантаў ці Пушкін. У мяне ўжо тады хапала літаратурнага густу, каб разумець, што хлапец, які сядзіць са мною на адной парце, бегае купацца на Днепар — гэта сапраўдны паэт. (Тое, што ён стане гістарычным пісьменьнікам, мне ў галаву тады не прыходзіла). Ён быў паэт ня толькі таму, што пісаў выдатныя вершы. Ён быў паэт па прыродзе, па сваіх адносінах да рэчаіснасьці.

Усе юнакі нашага кляса, былі закаханыя ў нашу настаўніцу літаратуры. Але



Драматычны школьны гурток, у якім граў Уладзімір Караткевіч. 1947 г. Валодзя Караткевіч стаіць у самым верхнім радзе, справа. Разам зь ім Леанід Крыгман. Кацярына Іванаўна сядзіць у першым радзе трэцяя зьлева.

наймацьней Валодзя. Аднойчы мы з Юрыкам залезьлі на адрын, дзе Валодзя звычайна пісаў і хаваў свае творы. Мы знайшлі яго сшытак зь вершамі й узялі яго. Там былі рамантычныя вершы, прысьвечаныя Кацярыне Іванаўне. Справа амаль не дайшла да бойкі, калі Валодзя даведаўся аб крадзяжу. Ён не размаўляў з намі цэлы месяц. Але потым мы зноў сталі неразлучнымі сябрамі.

Пасьля заканчэньня школы Валодзя паехаў у Кіеў і паступіў ва ўнівэрсытэт, на філёлягічны факультэт. Я -ж стаў студэнтам Маскоўскага энэргетычнага інстытута. Пачалася нашая перапіска.

Сустракаліся на вакацыях у Воршы, але толькі да 1952 года. Потым не бачылі адзін аднога доўгія гады. Валодзя пачаў працаваць пасьля заканчэньня ўнівэрсытэта настаўнікам у Тарашчанскім раёне Кіеўскай воб. Я-ж працаваў у Сібіры, Барнауле, а потым у Данецку, адкуль у 1988 годзе эмігрыраваў у ЗША. Нашыя сустрэчы пасьля апошніх агульных вакацыяў сталі рэдкімі, іх можна пералічыць на пальцах. Але мы перапісваліся з 1954 г. амаль 25 гадоў, і гэту перапіску я лічу сьветлай старонкай у маім жыцьці. Мы былі па-юнацку даверлівыя, сумесна перажывалі нашыя посьпехі і няўдачы. Валодзя амаль у кожным лісьце пасылаў мне свае вершы. Спачатку на расейскай і беларускай мовах, а потым толькі па-беларуску.

Яго доўга не друкавалі. Няцяжка зразумець чаму. Валодзя ня мог, як сумленны чалавек, пісаць, як патрабавалася ў гэты момант. У галодныя гады апавядаць аб заможным жыцьці калгасьнікаў яго нельга было прымусіць нават пад пісталетам. І вось, пакуль рэдакцыі не прымалі ягоныя вершы, ён пасылаў іх мне і, пэўна, яшчэ каму-небудзь зь сяброў. Толькі некалькі зь яго твораў, якія ён даслаў мне, спачатку ў Маскву, потым у Барнаул і Данецк, пабачылі сьвет. Але тое, што было надрукавана, часам нельга было пазнаць. Пасьля бязьлітасных рэдактарскіх ножніц зьнікалі яго багатыя вобразы, настрой, сэнс, ідэя, і на сьвет зьяўляўся твор, які адрозьніваўся ад першакрыніцы, как тэлеграфны слуб ад разгалістага дуба. Валодзя прасіў крытыкі і парадаў, але я заўсёды захапляўся яго творамі і быў вельмі дрэнным крытыкам, за што ён мяне папракаў.

Першая нашая сустрэча пасьля 1952 года адбылася восеньню 1959 г. у Маскве, дзе Валодзя вучыўся на Вышэйшых літаратурных курсах. Там я быў сьведкам напісаньня вельмі асабістай паэмы «Плошча Маякоўскага». (Потым яна ўвайшла ў кнігу «Нельга забыць»). Валодзя напісаў яе, не адрываючы пяра ад паперы, і прачытаў за сталом, дзе акрамя мяне, маёй жонкі Музы, было некалькі маладых літаратараў зь Сібіры, Літвы, Нямеччыны і г.д. (Добра памятаю іркуцкага паэта Рэуцкага, які чытаў свой верш «Сьмерць ваўкадава»). У той вечар Валодзя таксама прачытаў верш з рэфрэнам «Лиофеля, дочь короля», навеяны нейкай нямецкай легендай.

Наступныя сустрэчы былі ўжо ў Менску. Часам, я трапляў туды ў час камандзіроўкі, часам, пасьля турыстычных паходаў на байдарцы. Камандзіроўкі ў Менск не былі заўсёды заплянаванымі. Інстытут газавай прамысловасьці, дзе я працаваў, ня быў зьвязаны зь Беларусьсю. Таму прыходзілася знаходзіць мэты камандзіровак і дабівацца іх. Хацелася пабываць зноў у Беларусі, а галоўнае, сустрэцца з маім даўнім сябрам.

Валодзя заўсёды быў вельмі вясёлы пад час нашых сустрэчаў, шмат сьмяяўся, успамінаў нашыя школьныя гады. Запомнілася нашая сустрэча ў 1972 (1973?) годзе. Валодзя прыехаў да мяне на таксі. Выходзіць з машыны і ледзь ня плача.

—Што здарылася?—пытаюся ў яго.

Ён дастаў з партфеля рукапіс, які ў страшэнным выглядзе. Валодзя пісаў самапіскай, і таму чарнілы расплыліся так, што нічога нельга разабраць. Я сам ледзь не плачу, пытаюся:

—Што тут было?

—«Пан Тадэвуш». Разумееш, спэцыяльна адпачынак для гэтай мэты ўзяў, забраўся ў Белавежскую пушчу, каб ніхто не перашкаджаў, сядзеў 10 дзён. Зрабіў пераклад і — на табе. Паклаў у партфель дзьве бутэлькі водкі, а яны разьбіліся й усю працу зьнічтожылі.

— Валодзя, у цябе-ж фэнаменальная памяць. Ты-ж можаш адрадзіць твор.

—Разумеешь, я за гэты час настолькі выдахнуўся, працуючы над перакладам, што ў бліжэйшы час, наўрад ці зноў вазьмуся за гэтую працу.

Потым мы паехалі на кватэру Рыгора Барадуліна, дзе сабралося даволі шмат людзей. Ён ненадоўга пакінуў мяне сярод іх, бо паехаў сустракаць будучую жонку Валянтыну. Калі вярнуўся зь ёю, быў трошкі весялейшы.

Уладзімір Караткевіч быў рыцарам у поўным сэнсе гэтага слова. Па натуры вельмі мяккі, добры, чулы, ён быў у той жа час чалавекам надзвычайнае сьмеласьці. Калі Валодзя лічыў, што ён або нехта пакрыўджаны несправядліва, ён, ня думаючы, што праціўнік мацьнейшы за яго, мужна ішоў у бой, У дзяцінстве гэта часта канчалася разьбітым носам або сіняком пад вокам, але гэта яго ніс колькі не вучыла, і ў наступны раз адбывалася тое самое. Як ён напісаў у паэме «Орша»: «А ўсё ж такі мы былі горды мі жабракамі, гордымі, як касцільцы...»

Гэтае рыцарства было зь ім на праця гу ўсяго жыцьця. Аднойчы ён паказваў мне шрам на руцэ, зароблены ім ў Кіеве ў час дзяжурства ў дружыне. Яго пала санулі нажом, добра што толькі па руцэ.

Такім-жа ён быў у сваёй літаратурнай і грамадзкай дзейнасьці. За тое яго любілі сябры (а іх было заўсёды шмат), і не любілі ўлады. У часы, калі гэта было вельмі небясьпечныа Валодзя мог, нягледзячы на тое, хто яго слухае, выгукнуць: «Кастуся Каліноўскага на вас няма! Ён -бы паказаў вам вашае месца!»

Наступны выпадак характарэзуе Уладзіміра вельмі тыпова. У час дэкады беларускай літаратуры і мастацтва ён, еду чы ў Маскву, апынуўся ў адным вагоне з Машэравым. Валодзя стаяў ля вакна і паліў. Падыйшоў Машэраў, пахлопаў па спіне і кажа: «Ну, як справы, Валодзя?» На што Уладзімір (а яму было пэўна 40 гадоў) пахлопаў Машэрава ніжэй спіны і сказаў : «Ды нічога сабе, Пеця».

Апошняя сустрэча зь ім летам 1980 г. была прыкрая для мяне. Мы дамовіліся сустрэцца зь ім на яго кватэры а 5-й. Але я, вярнуўшыся з паходу, настолькі стаміўся, што заснуў і праспаў прызначаны час. Прыехаў я да яго вечарам. Валодзя быў зол. Я ніколі раней не бачыў яго такім. Ён нават крычаў на мяне, што я не шаную яго часу, што ён спэцыяльна прызначыў гэтую сустрэчу на 5 гадзіну, бо пазваў да сябе другога сябра. Я прасіў прабачэньня, але Валодзя быў у гневе. Ён у час адпачынку ў Кры му атрымаў траўму галавы, і яму сказалі, што ён пражыве ня больш месяца.

—Я павінен пасьпець зрабіць яшчэ шмат чаго, а ніхто гэтага не разумее...

Потым Валодзя крыху супакоіўся, мы нават выпілі зь ім за сустрэчу, але той былой сяброўскай атмасфэры ўжо не было. Так мы і разьвіталіся. І больш ніколі ўжо не бачыліся. Засталіся памяць аб ім, яго лісты і вершы, якія ён перасылаў мне, калі яшчэ нідзе ня мог надрукаваць. Усё гэта я перадам будучаму музэю Уладзіміра Караткевіча, які абавязкова павінен быць створаны.



# Лісты і вершы Ўладзіміра Караткевіча



7/II-54 г.

Свет ты мой Леванидушка!

Долго думал аз, раб твой грешный, в каком стиле и духе начати к тебе свою цедулу. То ли в восточном духе (но тогда ведь пришлось бы писать тебе комплименты в духе: нос твой башня ливанская», «зад — куча песку» — а я на это неспособен), то ли в посконно-русском. Знаешь, в начале 20-х годов в крестьянском журнале «Жернов» помещались такие «былины».

*«Ох,ты гой еси весь рабочий люд*
*От сохи, от сердца и от молота,*
*Ты послушай-ко, что тебе спою*
*Я под гусли свои многострунные».*

А затем дело переносится «во Неметчину».

*Там живал бывал богатырь большой,*
*Богатырь большой Карла Марсович.»*

Ей богу. Вот чтоб меня женили. Былинным стихом я тоже не владею, а потому решил писать просто коротко и ясно. Только что написал письмо Наде Честновской (не знаю, знаешь ли ты ее, она оршанка и кончала 1-ую школу через год после нас), живущей в Москве по второму Донскому проезду 9 в общежитии «Дом коммуны». Если есть настроение—сходи с визитом, нет не хочешь, не надо. И вот сел писать оное письмо, дабы был ты на меня не злой, а любительно миловал (выражаясь языком «Прамовы Мялешкі»). Чтобы сразу отделаться то виршей пишу тебе, што посылаю 4 (четыре) стиха. 1-й «Машека», плоховат, в чём то едва ли не в длине. Два стиха в пародном духе, почему от них пахуче несёт ліповыми лаптями. Хотел было послать тебе версус «Патриоты» да он был дюже длинный и я поленился его переписывать, а начало вырезал ножницами, так что лист с фокусом.

И наконец «Иней». О нем можно сказать, что года два назад он был и искренним и хорошим. А сейчас это уже не то и мне кажется натянутым. Мне и вообще всего более нравятся свои последние вещи, а чем далее отодвигается вещь - тем она мне кажется слабее. Есть только несколько штук, которые я и сейчас по старой памяти люблю, слишком памятны ощущения, которые их вызвали к жизни. Ты тоже прав, кинематографии мы не знаем чужой. После итальянцев и индусов это точно. Мне прошлось смотреть японский «А все-таки мы живем». В Киеве эта картина шла в одном из клубов всего один день и исчезла почему то. Но это было едва ли не лучшее, что мне приходилось видеть. То же может быть и в других местах. Мы себя сковали условностями. Зубоскальство Тимошенко и Березиных у нас уже смелая шутка, так же как «Испытание верности» — кино со смелой ситуацией. А нужна беспощадность настоящая. О индусских «ужасах» говорить не приходится. Они есть, но скользят мимо глаз, так же как и явная «декоративность» многих мест (как задний фон в плохой фотографии). Но надо учесть, что они все-таки делают 1-е шаги и начиная от «Детей земли» выросли чрезвычайно. И потом — это восток. У него притуплены нервы и он еще не очень понимает слов Пушкина, которы и мы не понимаем толком: «Но привычка притупляет ощущения — воображение привыкает к убийствам и казням (в трагедии) и смотрит на них уже равнодушно, изображение не страстей и излияний души человеческой

для него всегда ново, всегда занимательно, велико и почтительно». Вот того, что многие убийства и ужасы в кино нас уже чуть не смешат они еще не поняли, зато поняли,что нужно изображать страсти человеческие. В этом их сила. Итальянцы изображают жизнь и это их сила сильнейшая. Американцы только одни ужасы (в таких картинах как «башня смерти») — и это мерзко, а наши — ни того ни другого. Наши картины чаще всего похожи на рассказы какого-нибудь Потапенко, что ли и большинство действующих лиц в наших картинах—кастраты. В общем, будет об этом

А артисты у индусов действительно гении. Взять хотя бы Притвираджа (судья Рагунат) или Дэванаида (адвокат в «Урагане»), да что говорить. А разьве Радж Капур плох? Эх ма! Где то наши Москвины и Дальские, которые могли бы дать им очки вперед. Качаловы умирают, а на их место становятся ослы, попавшие в студию за успехи в профсоюзной работе. Сюжет «Феникса» богат и даже очень. Как его втиснуть в четыре десятка глав не знаю, но я жадничаю ужасно и для него хватаю лучшие слова. Страшно хочется писать, но я не мо гу этого делать. Когда на мне что-то висит и он лежит. А они уже ходят у меня в голове, влюбляются, дерутся, даже показываюты друг другу дули, черт бы их взял. Боюсь, как бы не перешибли другие темы, а то что-то подозрительно капошится где-то в мозгах восстание Вощилы и его финал, когда восставших, зашитых в медвежьи шкуры, рвали в Кричеве борзыми собаками. Придётся видно этому факту сунуть пока стих, чтоб на время отвязался, а потом посмотрим. Скоро уже и твоя защита. Однако жаль, что она назначена на конец февраля. Пиши, когда кончишь и когда поедешь домой и пр.

Трудись Братец! Напоминаю в 1-й раз.

Не знаю как насчет энэргостроения, а вообще у тебя голова — дай бы всякому и, судя по всему, ты мог бы очень хорошо писать, причем всерьёз. Во-первых, письма тому свидетельство, во-вторых, то, что мы вместе начинали и с оди наковым успехом. Помнишь как мы «Блоху» пародировали в применении к Ольге Ивановне. А на нее до сих пор зол отчаенно, Скотина а об

Екатерине Ивановне (даже в одну строку не хочу с той помещать) ничего не слыхал. Кажется не в Холопеничах, а где—не знаю. Дорого бы дал за ее адрес. Так хочется сделать что-нибудь хорошее, а после написать ей. И забыть ее не могу, потому что, если помнишь, был в нее влюблен глупо, по-мальчишески, но всерьёз. Пьесу помню. Ох и глупые были пьесы. У тебя главное действующее лицо (героическое) был почему-то лакей. А у меня герои ходили на ходулях, говорили невероятные вещи и разыскивали 2-й список «Слово о полку Игореве» и дико хохотали и те де. Но все равно приятно. И, думается, мне, ты бы сейчас с удовольствием прочитал, если-б не разорвал. А раздоры были и глупые и не глупые. На них мы учились драться как позднее в жизни. Вот бы описать это всё: «Барань и выстрел Павловского, кажется, в воздух, и все это. Но боюсь что то чувство не удастся переложить И Ванька Козачонок, мой «соперник». Боже мой, как глупо. Эпиграммы писал, дулся. Бр-р. р. Пародировал как он «Аква» у «Вйно» пил. Ну добре, что интересует — спрашивай. И пиши мне обо всех новинках. Кста ти, ведь в Москве вот-вот на днях должна быть белорусская декада. Тебе на ней непременно нужно побывать. Начнётся она что-то вот-вот скоро. Узнай. Ну кончаю. Пиши, когда будет настроение, милорд.

(Працяг у наступным нумары)

# Орша

Мне да Гамера далёка
З вершыкамі простымі
І сем гарадоў не паб'юцца
З-за простай маёй труны,
А ўсё-ж пры жыцці я скажу вам
Дзе мілая мне Радзіма,
Дзе ў першы раз я пабачыў
Дзяцінства цёплыя сны.
Чым не жартуе д'ябал?
Састроіць падзею вясёлую,
За гонар той будуць спрачацца
Хоць нейкія гарады,
Хай сабе хоць маленькія,
На дзесяць хатак са школай,
Хай сабе хоць такія
Як Шклоў, Дуброўна, Ляды.
І вось на выпадак гэткі,
Каб кроў не лілася злівай,
Каб яблыкам для разладу
Мне мімаволі не стаць,
Я адкажу проста так,
Каб стала ўсё справядлівым:
Орша — мой родны горад,
Мая спрадвечная маць.
Дзе-б я не валачыўся
Шляхам раней незнаёмым,
Як бы ў іншых хатах
Не лёгка было заснуць,
Сэрца мае ў той час
Сябе адчувае ўдома
Як толькі гмахі вакзала
У вачах маіх прамільгнуць.

Гэта мой родны горад:
Усе тут родныя людзі,
Кожны камень на вуліцы
Знаёмы і дарагі,
Орша ўспаіла мяне
Сваёй каменістаю грудзю,
Указала мне, дзе сябры мае,
А дзе мае ворагі.
Яна не блішча красою,
Хутчэй зусім насупроціў
З паркам сваім змарнелым,
З сваёй Кабылецкай гарой,
З лянівай сваёй Аршыцай,
Што хвалі зялёныя коціць
У матку ўсіх рэк славянскіх
У магутны, сівы Днепр.
Хаткі, што да абрыву
Як ластавак гнёзды туляцца,
Родныя і дарагія
Як поціск каханай рукі,
Брук, размыты дажджамі,
У пыльных камочках вуліцы,
Куродым на сценах будынкаў,
Дальнія цягнікі.
Недзе яна стаіць
Адзіная і дарагая,
У чорных істужках чыгунках,
Што ўсю яе абвілі,
З народам, што на сваёй
Лаве не памірае,
Што семя свае рассеяў
Па ўсіх куточках зямлі.
Калісці... было і такое
Вам надбівалі крыльцы,
Быдлам вас называлі

А ўсё-ж такі вы былі
Гордымі узбракамі,
Гордымі як кацільцы,
Бо род ваш быў ад Адама
А рукі ў вузаншай пыли.
Вы паціскалі плячыма
Калі хлусліва казалі,
Жадаючы ў час весёлы
Рабочы ваш род асмяяць,
Што любяцца ў вас на ванне,
На ванне вы нарадзаліся,
Ванна усіх вас карміла,
У ванне вам і мерцаць.
Казалі: „Гэта мой горад,
І хай непрытульны часам —
Ён лепшы, бо гэтае права
У цяжкай здабыў барацьбе.
Гэта — мой родны горад,
Яму не патрэбны прыкрасы,
Ён сам для сябе прыкраса
І гордасць сам для сябе.“
Я не умаю хваліцца,
Што лепей за [illegible] удома,
Што Орша самая лепша,
Што ў свеце няма прыгажэй...

Калі хлусліва казалі,
Жадаючы ў час весёлы
Рабочы ваш род асмяяць,
Што любяцца ў вас на ванне,
На ванне вы нарадзаліся,
Ванна усіх вас карміла,
У ванне вам і мерцаць.
Казалі: „Гэта мой горад,
І хай непрытульны часам —
Ён лепшы, бо гэтае права

У цяжкай здабыў барацьбе.
Гэта — мой родны горад,
Яму не патрэбны прыкрасы.
Ён сам для сябе прыкраса
І гордасць сам для сябе."

Я не жадаю хваліцца,
Што лепей за ўсё ўдома,
Што Орша самая лепшая,
Што ў свеце няма прыгажэй...
Ле галоўная гордасць
Тое, што як ведама,
Пабудавалі паўсвета
Рукі яе людзей.

Яны цягнікі вадзілі
І лён на фабрыках ткалі
Лес магутны валілі
І ўмелі плавіць метал,
З цёмных каменяломняў
Белы вапняк ламалі,
Торф рылі, зямлю капалі
І цвёрды быў іхні закал.

Хто мне ў тым не паверыць,
Хай на міг прыгадае
Пятага забастоўкі,
Вулічныя бai
Хай прыгадае Заслонава
І потым на вус намотае,
Што гэта былі аршанцы,
Родныя людзі мае.

Як толькі цёмнаю ноччу
Я вочы свае зачыняю,
Адразу ж я бачу
З [illegible] цяжкай класоў
З бярозамі над Аршыцай
З вясёлым сонейкам Мая,
З блакітам першых пралесак
У косах каханай маёй.

Тут нарадзіліся думкі,
Воля, талент, ўсё мяне,
Тут стаў я сына. Радзімы
Абпалены яе вагнём,
Таму і люблю яе
Першым вялікім каханнем,
Якое знікае з сэрца
Хіба што толькі з жыццём.

## Я помню.

Тёмные как сажа ночи лета,
Прядь тумана в поле пролегла...
До щеки моей коснулся ветер
Лёгким дуновением крыла.

Кто это? Зачем меня ласкает?
Вздохи чьи тихонько проносились?
Может это вышла дорогая
Навестить меня из-под земли?
Превратилась в нежное дыханье,
В тихий полуночный ветерок
И пришла избавить от страданья
Друга, что остался одинок.
Милая, припомнишь хоть на мгновенье
Вижу. Пою. Без горя и без слёз
Нежное твоё прикосновенье
Мягкое как шёлк твоих волос.

Где ты? Где ты? Где твоё дыханье?
Может ты осталась навсегда
Одинокой прядкою тумана,
Что ушла неведомо куда?

Что это? Откуда эти звуки?
Вздохи улетевшие навек?

Протянув навстречу ветру руки,
Вслушиваясь замер человек.

# Калі паэт «асыпаецца песьняй...»

Сьвятлана Анатольева

Наш цягнік спыніўся на маленькай станцыі Сы Кліф. Мы сышлі зь яго і пасіроцку сталі сярод машын, якія чакалі сваіх гаспадароў, што паехалі на працу ў Нью-Ёрк. Цярушыў збрыдны дробны дождж. І раптам гэты па-кастрычніцку сумна-шэры дзень у момант нібы пась вятлеў: як ратунак, насустрач нам бег чалавек. То быў Масей Сяднёў.

Ён амаль не зьмяніўся з тых часоў, калі 2 гады назад я бачыла яго ў Менску, у Доме літаратара на ягоным творчым вечары. Не зьмяніўся вонкава. Але як паэт, здалося мне, памаладзеў. Мы ехалі ўздоўж бальшака, усьцяж якога гарэлі, дакладна, як у вершы Сяднёва *«падпаленыя восеняй бярозы»*, і гаварылі аб нечым звычайным, быццам-бы ўсе гэтыя гады мы бачыліся кожны дзень. У хаце яго мне таксама ўсё здалося знаёмым У гасьцёўні, з прыгожых рэпрадукцыяў, нас сустрэлі Дон Кіхот, героі Пікасо, старажытна-велічныя храмы і вежы Мюнхена, лірычна-насталыгічныя краявіды далёкіх краінаў. І толькі сонечна-залацістае сьвятло, якое напаўняла хату нейкім іскрыстым настроям, было напачатку незразумела мне. Сьвятло гэтае ішло ад пазалочаных дрэваў панадворку.

Два дні прайшлі ў спрэчках, успамінах. Гаспадыня хаты сп-я Вольга расказвала пра віленскую гімназію, у якой яна вучылася, пра віленскі ўнівэрсытэт. Сп. Масей апавядаў аб Менску, Калыме, Нямеччыне. На трэці дзень ён, нарэшце, павеў нас ў «сваю сьвятыню-рэцыдэнцыю», стары, з альтанкамі, морам і яхтамі, прыгожы Морганаўскі парк на ўзьбярэжжы затокі. Гэтае ўлюблёнае мейсца блуканьняў нашага паэта. Гартаючы ягоны зборнік «А часу больш, чым вечнасьць», перачытваючы такія вершы, як «Восень», «У парку», «Дрэвы у парку», «Лістапад», «Зажурылася восень», «Восень-гаспадыня», «Восень адмалацілася» й іншыя, я пераканалася, што гэты прыгожы парк паслужыў як-бы натурай для паэта. Менавіта тут у яго душы нараджаліся вобразы, ідэі, якія потым і знайшлі сваё адлюстраваньне ў вершах.

Мы йшлі ў парк, каб даведацца, па кім так журботна сьпявае прыгажуня Восень. Мы хацелі пабачыць яе легкую, прывабную, якой яна неаднойчы зьяўлялася паэту. Але кожны раз, калі нам здавалася, што яе залочаны шлейф злоўлены,мы гублялі яго. Вось ён разьбіўся на тысячы асколкаў і ўслаў наш шлях. Вось ён сьлізгануў па дрэвах, мяняючы свае сонечныя фарбы. А вось, сотканы з сьветлага павуціньня восені, ён ляціць па хвалях затокі ў танцы. І немажліва хоць на хвілінку затрымаць яго.

Само мора — блакітна-шэрае і салёнае, бо ў ім сабраныя ўсе сьлязінкі восені. Яно таму і такое вялікае, што восень любіць плакаць дажджамі, лістападамі, песьнямі.

*«Усхадзілася, узьнялося мора.*
*Ускіпела белымі зьмяіста-шыпучымі скалкамі.*
*Магутныя хвалі тапілі іх у бездані,*
*але яны зноў узьнікалі з новым імпэтам і шаленствам.*
*Усхвалаванае, уздыбленае мора хадзіла разьюшанай стыхіяй,*
*у сваёй разьюшанасьці штурмавала бераг,*
*пярыла ў мураваную сьцяну і, хліснуўшы з усёй сваёй сілы*
*праз ейны верх, абдавала праходжых салёнымі пырскамі,*
*плявалася на іх шумнай пенаю, быццам помсьціла ім.*
*за тую сьцяну, якой яны хацелі утаймацаць яго,*

*адгарадзіцца ад яго ўзбуранай сілы. Не, мора выйшла з сябе*
*узьнялося. Дастае сваімі ўсплёскамі, хлешча па сьпінах праходжых.*
*Мора сьвяткуе сваю перамогу».*
*(Перамога мора)*

Голас паэта, які чытаў нам свой верш ўзрушаны. Паэт любіць мора. У яго ёсьць цэлы цыкл марскіх вершаў. Між ін шым, прафэсар Зоя Юр'ева ў сваёй працы пра Сяднёва шырока спынілася на воб разе вады ў ягонай творчасьці. Мора ў яго дыша то спакоем, цішай, лагодай, то, узбуранае, разьюшанай стыхіяй.

—Памятаю,—гаворыць паэт,—з жонкай мы паехалі ў Гузум, ў нямецкі гарадок на поўначы, каб наведаць музэй слаўнага пісьменьніка Тэадора Штормa. Увечарам мы захапляліся цудоўным морам. Было ўжо позна і мы вырашылі паглядзець на яго раніцай, а прыйшлі — яго ўжо ня было: зьбегла, адплыло. Расчараваньню майму ня было канца.

Пасьля гутаркі з морам мы пайшлі да лаўкі, масееўскай лаўкі, месца яго творчых роздумаў. Зь яе добра бачна за тока, і можна назіраць, як снуюць над морам чайкі, што крычаць, просяць есьці і, як і людзі, шчасьця ды не знаходзяць У Сяднёва пра гэта хораша сказана:

*Мо таму так сумна чайкі,*
*узьлятаючы, над ім крычаць.*

Тут заўсёды цішыня. Можа таму гэтае месца так кранае сваёй журботнай-філёзафічнасьцю:

*«З начы ў парку яшчэ быў мароз*
*і ў ім ня было*
*людзей.*
*Ды апаўдні парк ужо нагрэўся ад густога*
*восеньскга сонца.*
*Было цёпла і ўтульна, аднак, лаўкі ў парку*
*яшчэ пуставалі.*
*Толькі ў вадным кутку, на выграце, асунуўшыся,*
*сядзелі двое старых, і невядома было,*
*ці яны задрамалі, ці ўжо адыйшлі».*

А недалёка адгэтуль, на ўзгорку, у прыгожым палацы-будынку жыве Яна, ягоная Мадонна. Зь яе акна бачна мора. Дом-палац нагадвае нейкую цытадэль шэра-зялёнага колеру.

—А вось тое месца, дзе я ледзьве не аддаў Богу душу. Як адным дыхам пась кепленае маланкай дрэва побач мяне кінула на мяне свой найбольшы аськепак. Не зрабі я аднаго кроку наперад, сёньняшняй сустрэчы з Вамі ня было-б, сказаў крыху памаўчаўшы ён.—Усе пакінулі ў той час парк. І толькі я ў ім застаўся. Мне было цікава пабыць у парку ў час навальніцы.

— А зараз, хто хутчэй сьбяжыць уніз?—пытаецца сп. Сяднёў. І мы ляцім з горкі. Сяднёў апераджае нас і хваліцца:

—Некалі ў маленстве я гуляў у спа борніцтва з малым жарабяці, хто каго абгоніць? Я бег шпрачэй за яго, абга няў.—І без усялякага пераходу Сяднёў пытаецца: « Якога колеру гэтае дрэва?

—А як называецца колер, які ўвабраў у сябе фарбы ружы і бурачкоў?—пытаньнем на пытаньне адказваю я. —Не дзе я чытала, што японскія школьнікі мо гуць адрозьніваць каля 3 тысяч адцень няў колераў. У японскай мове хапае сро дкаў для абазначэньня гэтых адценьняў.

—Наша мова, канешне, не такая багатая. Вось паэты і мусяць узбагачаць нашую мову, каб і ў ёй знайшліся дастатковыя сродкі для ўсіх адценьняў.

Павольна мы вярталіся да машыны. Восень, Сяднёўская восень танцавала для нас свой разьвітальны танец. Зьлятала на зямлю залатое лісьцё, і пад яго павольную мэлёдыю нараджаўся верш ...

*Калі асыпаюцца дрэвы ў цішы —*
*зьвініць лістапад.*
*Калі чыстай сьлязінкай струменіць вада-*
*журчыць вадаспад.*
*Калі зоркавы дождж льецца срэбным сьвятлом —*
*гарыць зарапад.*
*Калі паэт асыпаецца песьняй —*
*гучыць песьняпад.*

# З «Масеевай кнігі»

Масей Сяднёў

## Дом-палац

Гэты дом-палац на высокім беразе затокі заўсёды інтрыгуе мяне сваёю ней кай таямнічасьцяй: жыве ў ім хто, ці не? Вокны ў ім атулены гэтак, што складваецца ўражаньне, быццам ён нікім не заселены, стаіць сабе, самотны, загадкавы, вока праз вокны нічога ня можа ўгледзіць, што там ўнутры, у сярэдзіне.

Але сёньня гэты дом-палац ажыў для мяне. Затока ўсхадзілася сваімі ма гутнымі, пеністымі хвалямі, гоніць іх у штроме на самы бераг, над якім стаіць дом-палац. Затока адкрылася пагляду ўсёй сваёй узьнятай паверхняй і можна далёка акінуць яе, зь іскрыстымі, бялявымі скалкамі, простым вокам. У нейкі момант у вакне, што на затоку, нейчая рука адхінула штору і я пабачыў.. Божа мой, няма ў мяне слоў...пабачыў надзвычайнай прывабнасьці жаночую постаць, што, відавочна, толькі што ўзьнялася з крэсла, і, заварожаная, пачала глядзець на бурныя хвалі, якія каціліся ёй насустрач.

## Яна

Я пераканаьы: у гэтым доме жыве *яна*. Што яна сапраўды тут, сьведчаць белыя, як чысты сьнег, пульхныя папяровыя істужкі, якімі абчэплена разложыстае дрэва пры саменькай дарозе насупраць ейнага дому. Я іду паўз гэтае дрэва раніцою. Зь ягоных галін зьвісаюць, як белыя лілеі, заспакоеныя ўжо істужкі. Тут такі звычай: чапляць белыя істужкі на галіны дрэў, калі ў доме мае адбыцца нейкая ўрачыстасьць — дзень народзінаў ці вясельле. Гэтыя істужкі і ўзбудзілі ў мяне шчымліва-прыгожае пачуцьцё: у гэтым доме *яна* спараўляла свой дзень народзінаў. Я не дапушчаю, што тут спраўлялася вясельле, яно ня выклікала-б у мяне рамантыкі. Гэта было-б нешта ўжо скончанае. Не, тут увечары і да позьняй начы *спраўляўся* дзень народзінаў, нейкай, *абавязкава* прыгожай дзяўчыны. Ёй мо 18 ці 20 год. Вось і дае яна вонкаваму сьвету,такім праходжым, як я, што ў гэтым доме жы ве *яна*, трохі гордая, быццам недаступная, але пякельна зваблівая і *гатовая*. Уся ў чаканьні. Цяпер-жа, пасьля начной весялосьці, калі нават істужкі на дрэве зьвісьлі ў сваёй стомленасьці, яна пэўна сьпіць у вадным з пакояў гэтага прыгожага дому. І ў соннай рысы ейнага твару такія, што... ну такія , што ты не хацеў-бы больш нічога, як толькі дакрануцца ейных, і ў сьне звабных вуснаў. Здаецца, яна ня сьпіць, а, у сваёй ціхамірнасьці, жыве яшчэ тым што *было*. Для мяне-ж яшчэ ня зьнятыя з дрэва істужкі гавораць пра нейчае *прыгожае існаваньне*, недаступнае мне, але зваблівае і прынаднае. Ад гэтага мне трохі сумна, але гэты сум патрэбны мне як лек, ён узвышае мяне. І ці я іду, ці еду, я не магу ня зірнуць на ейны дом: там — *яна*.

1991 г.





«Я не самотны, я кнігу маю...»
Сьвятлана Белая

Напярэдадні яму прысьнілася маці. Такой шчасьлівай і прыгожай ён ніколі больш яе ўжо ня бачыў. Залатым дажджом струіліся яе шаўкавістыя валасы, дзівосным агнём гарэлі вочы. А сама яна была такая сьляпуча-белая, аж гарачая. Ён адчуваў цяпло яе прысутнасьці, цеплыню яе голаса. І яму нясьцерпна хацелася падыйсьці і дакрануцца, прытуліцца да яе. Але Максім баяўся зварухнуцца. Ён не хацеў, каб маці зьнікла.

Матуля грала на фартэпьяна. Але калі яна засьпявала: «Ой, чаму ты стаў паэтам у нашай беднай старане?..» — ён забыўся і зрабіў крок насустрач ёй. Песьня абарвалася і маці ператварылася ў музыку. Яна стала мэлёдыяй, якая ляцела да зорак, да вечнасьці, пакідаючы за сабой цішыню і надзею.

У хаце было ціха. Максім падыйшоў да фартэпьяна, якое, здавалася, яшчэ выпраменьвала пяшчотнасьць яе пальцаў. На чорнай лакіраванай крышцы ляжаў вянок з васількоў. Ён узяў яго ў рукі і — прачнуўся...

А вечарам паэт трымаў свой вянок. «Вянок», дзе засушыў ён на паперы «краскі, сьвежыя калісьці, думак шчырых і чуцьця». Кніга пахла друкарняй пана Марціна Кухты й яго роднай Бацькаўшчынай. Ён верыў і не верыў у гэтае. Няўжо споўніліся яго мара і сон, йогонае выратаваньне?

А да «Вянка» трэба «Красавік», а яшчэ «Шыпшыну», і нават «Палын-траву», каб раськвітнела беларуская літаратура чароўнай кветкай, загучала ў яе паэзіі музыка садоў, лясоў і палеткаў.

Максіму радасна. Усё сьпявае ў душы. Але пісаць вершы сёньня ён чамусьці ня можа. Усе блытаецца ў галаве. «Думкі з розуму ліюцца, Пачуцьцё з душы бяжыць...» Таму замест вершаў ён падпіша зборнічак блізкім людзям. Максім з замілаваньнем узяў кніжку і пачаў выводзіць на першай бачынцы, пад прозьвішчам:«Тете Маше от любящго ее автора.М. Богданович». Атрымалася прыгожа

МАКСІМ БОГДАНОВІЧ.

ВЯНОК

кніжка выбраных вершоў.



Тады ён узяў наступную кніжку, кнігу для Ані. Як шкода, што ён не атрымаў трэцьяга ліста карэктуры, і ня змог паправіць усе памылкі. А галоўнае, паставіць над разьдзелам «Мадонны» тры літары А.Р.К. Ане Рафаілаўне Какуевай прысьвяціў ён гэтую частку зборнічка. Анечка даўно была ягонай Мадоннай.

А можа гэтая памылка да лепшага? Пэўна, гэта лёс. Калі ім не суджана быць разам, так навошта і гэтае пісьмовае прызнаньне ў каханьні —А.Р.К.? Навошта, каб нехта ведаў, што яго Вераніка — гэта Аня Какуева? Няхай думаюць, што Яна — выдумка яго галавы. Лепш так,

Яна будзе ягонай тайнай. Паэт мае права на гэтае.

Максім падпісаў кнігу брату Ані, Мікалаю. Той абавязкова пакажа «Вянок» ёй. А тая ўсё зразумее. Так будзе лепей.

Яшчэ адзін экзэмпляр ён падпісаў Мікалаю Агурцову, свайму сябру па газэце «Голос». Мікалай Агурцоў рэдагаваў літаратурны раздзел газэты й яе бібліяграфічны аддзел. Менавіта да яго прыносіў Максім свае рэцэнзіі й апавяданьні. Зь Мікалаем яго зьвязвала даўняе сяброўства, але ня толькі на літаратурнай глебе. Агурцоў быў краязнаўцам. Ён аб'ездзіў усю Яраслаўскую губэрню, напісаў некалькі працай на аснове сваіх вандровак. У рэдакцыі Мікалай, дзякуючы сваёй неўгамоннай натуры, быў незаменнай асобай. Ён на працягу шмат гадоў зьбіраў картатэку ўсіх яраслаўскіх выданьняў. Не было ніводнага значнага артыкула па гісторыі, культуры Яраславіі, якога-б ня мелася ў ягонай калекцыі. І не было ніводнага чалавека ў рэдакцыі, хто-б не пакарыстаўся ягонай картатэкай.

...Максім зайшоў да Агурцова ў рэдакцыю «Голоса» пасьля ліцэю. Той быў не адзін. У кабінэце сядзеў сярэдняга веку чалавек, прыеманай зьнешнасьці. Максіму здалося, што ягоны твар знаёмы яму. Мажліва, яны сустракаліся зь ім у рэдакцыі, але як яго імя? Незнаёмец нешта абмяркоўваў з Агурцовым, і Максім спачатку падумаў, што зайшоў не ў час, але памыліўся.

—О, нарэшце, Максім прыйшоў. Як пажываеце, малады чалавек? Чаму дарогу да нас забыліся?—радасна вітаўся Мікалай, пераходзячы ад слоў да справы.

—Ці пазналі Вы, шаноўны спадар, нашага публіцыста Пятра Крыцкага? Той, як і Вы, доўгі час прападаў невядома дзе. А сёньня ашчасьлівіў нас сваім візытам. Прыйшоў зь цікавымі прапановамі. Ён, разумееце, даражэнькі Максім, задумаў часопіс выдаваць. І нават першы нумар здаў у набор. А вось на другі — цікавага матэрыяла ў яго не хапае. Так ён прыйшоў да мяне і пытаецца грозна, дзе Ваш паэт Максім Багдановіч? Жадаю запрасіць яго ў свой часопіс для супрацоўніцтва.

Голас у Агурцова, як і заўсёды жартаўлівы, але адчувалася, што на гэты раз ён не разыгрывае Максіма. У рэдакцыі «Голоса» супрацоўнікі паважалі і нават любілі юнака. Ён лічыўся адным з най лепшых аўтараў літаратурнага аддзела і падаваў вялікія надзеі, як будучы сталы супрацоўнік. Ягоны нарыс, прысьвечаны 100-годзьдзю з часу нараджэньня паэта С. Дружыніна, рэцэнзія на раман Трыстана й Ізольды ў перакaзе Ж. Бедьэ, былі высока ацэнены ў рэдакцыі.

— Так што Вам застаецца загладзіць сваю віну,—працягваў далей Агурцоў, —толькі адным шляхам: стаць супрацоўнікам часопіса «Русский экскурсант» — першага на Русі экскурсыйнага выданьня.

— Я маю чым выкупіць віну, — сказаў Максім і працягнуў да Агурцова свой «Вянок».

—Максім Багдановіч. «Вянок», — не паверыў сваім вачам Мікалай. Віншую Вас. Ад шчырага сэрца віншую і жадаю, каб гэтая сьціплая на выгляд кніжка прынесла Вам вядомасьць і папулярнасьць ня толькі ў Беларусі, але і ў Яраславіі. Але-ж вы і зьмянілі ўсе мае пляны, шаноўны спадар. Думаў да хаты зараз пайду, а прыдзецца застацца. Буду ўдыхаць водар вашага «Вянка» і вывучаць беларускую мову. А так як, мажліва, буду мець некаторыя пытаньні, то вельмі прашу завітаць да нас у чацьвер. Тым больш, што рэдактар запрашае Вас ў гэты дзень да сябе.

Вяртаўся з рэдакцыі Максім разам з Крыцкім. Па дарозе той расказваў яму пра новае выданьне — часопіс «Русскі эскурсант», які ставіў сваёй мэтай пазнаёміць чытачоў зь гісторыяй і разьвіцьцём экскурсыйнай справы, з цікавымі куточкамі дзяржавы, з гісторыяй народаў і іх культурай.

—Мы будзем друкаваць артыкулы аб гісторыі і культуры розных куткоў Расеі, справаздачы экскурсіяў, рэкамэндацыі іх кіраўнікоў, уражаньні саміх экскурсантаў, — сказаў на разьвітаньне Крыцкі.— А таксама хроніку, крупіцы вопыту аматараў паходаў, бібліяграфію новых кніг па гісторыі і культуры. Я ведаю, што Вы, Максім, вельмі назіральны малады чалавек. Тое, што мне даводзілася чытаць на старонках газэты «Голос», пацьверджвае маю думку і сьведчыць аб вашым таленце. Так што дзьверы нашай рэдакцыі заўсёды адчыненыя для Вас. З радасьцю будзем чакаць Вас і Вашыя творы.

У чацьвер Максім, як і абяцаў, зайшоў у рэдакцыю. Агурцоў сустрэў яго радасна і, паказваючы на кніжку, якая ляжала на ягоным стале сказаў :

—Я зь цікавасьцю праглядзеў зборнік. Тое-сёе, што зацікавіла мяне, адзначыў. Але растлумачце мне, чаму Вы, народны беларускі паэт, напоўнілі Вашу кніжачку санетамі, рандо, трыалетамі й іншымі чуждымі народу формамі? Да таго-ж, Вы амаль да кожнага верша далі па эпіграфу ледзь не на ўсіх эўрапейскіх мовах. Навошта гэта?

Максім пачаў, хвалюючыся, горача даказваць, што гэта менавіта і трэба было зрабіць.

—За беларускай мовай не хочуць прызнаваць самастойнасьці і самабытнасьці. Ня хочуць дапускаць і думкі, што на гэтай мове можна выказаць усе рухі чалавечай душы і даць любую літаратурную форму. Я сваёй кніжкай хацеў паказаць, што ўсё гэтае мажліва. А для гэта трэба было беларускую мову паставіць разам з эўрапейскімі мовамі.

Максім хацеў таксама сказаць, што глянуўшы адразу на ўсю беларускую пісьменнасьць, бачым, што за апошнія гады сярэдняя вартасьць твораў падвышаецца, што цяпер кожны піша так, як некалькі год назад маглі пісаць найлепшыя пісьменьнікі нашы. А гэта можа значыць адно: тое, што ў беларусаў вырабілася літаратурная мова. Ня трэба цяпер, канечна, ісьці ў чужыя людзі, шукаючы глыбокіх і трывожных дум, чулага і хвалюючага пачуцьця, душу радуючай красы, Ня трэба, бо і ў саміх ёсьць. Мала таго, самі яны могуць да нас зьвярнуцца, бо іншы раз таго, што маем, мы, не знойдзецца ў іх. І гэта ня толькі таму, што ў нас ёсьць пісьменьнікі зусім асобнага духу, як напрыклад, Купала, Гарун, Ядвігі Ш., Бядуля ды інш. І ня толькі таму, што яны апісываюць беларускае, мала дзе вядомае жыцьцё. Не, і апроч гэтага знойдзецца шмат чаго, вось хаця-б нацыянальнае пачуцьцё: не зьвінелі, ды і ня могуць зазьвінець у расейцаў, напрыклад, яго струны так, як у нашай пісьменнасьці й ясным робіцца праз гэта, што ня толькі нашаму народу, але і ў сусьветнай культуры нясе яна свой дар.

Ён так і не закончыў сваю думку. У кабінет зайшоў сакратар і запрасіў іх да рэдактара. Там ужо ўсе былі ў зборы. Малады фатограф прызываў да цішыні й усьмешак.

—Багдановіч, не саромьцеся станавіцеся ў цэнтр, — сказаў нехта, бачучы разгубленасьць Максіма.

—Давай, давай, браце, падбадзёрыў яго Агурцоў, — Гэтая фатаграфія некалі ўвойдзе ў гісторыю. А для гісторыі трэба цярпець.

Пасьля здымкі рэдактар павіншаваў Максіма з выхадам ягонай кніжкі і на разьвітаньні сказаў:

—Уважліва чытайце «Голос». Хутка мы зьмесьцім нешта цікавае для Вас. А наогул, я хацеў, што-б Вы часьцей прыхо дзілі да нас. Чытачы засумавалі без Вашых твораў.

Пасьля размоваў у рэдакцыі Максім прыйшоў да хаты акрылёным. Адразу ўзяўся за працу. Ён ужо даўно задумаў напісаць сэрыю артыкулаў, прысьвечаных разьвіцьцю расейскай і беларускай літаратураў. А зараз гэтае жаданьне толькі ўзмацьнілася.

За кароткі час былі закончаныя артыкулы «Краса и сила»,«Памяці Т.Г.Шев ченко», напісаныя ў сувязі з 100-годздем з дня нараджэньня паэта Тараса Шаўчэнкі, «Одинокий», прысьвечаны Міхаілу Лермантаву, «Безумец», напісаны да 350-годзьдзя з часу нараджэньня Галілея Галілео, «Н.К.Михайловский». Амаль кожны тыдзень у газеце, у разьдзеле бібліяграфіі зьяўляліся рэцэнзіі Маскіма на новую мастацую або навуковую літаратуру.

За працай час ляцеў хутка. Максім і не заўважыў, як вясна ўступіла на зям лю, як пабірюзіла неба і Волгу, зрабіла ўсё навокал сьвяточна прыгожым і маладым. У Максіма пачаўся ўздым творчых сіл, ён працаваў ўдзень і ўноч. А тут яшчэ яго добры прыяцель па ліцэю Міхась Аржэнцкі, які спрабаваў пісаць вершы, пазнаёміў з багатай бібліятэкай яго бацькі, выкладчыка палітыч най эканоміі і статыстыцы ў Дзямідаўскім ліцэі. Калекцыя мела ўнікальны збор кніг на польскай мове. Чаго толькі варта прыжыцьцёвае выданьне А. Міцкевіча «Пан Тадэвуш«! Міхась прапанаваў Максіму абменьвацца кнігамі з бацькоўскіх бібліятэкаў. Багдановічу ідэя спадабалася. І ён вырашыў вывучыць польскую мову. А за дапамогай зьвярнуўся ў газэту «Наша Ніва»

*« Пане Вацлаве!*

*Скончыўшы вясеньнія экзамены, адразу хачу прыступіць да свайго даўняга жаданьня, — а ўласне хачу выўчыць польскую мову. Дзеля таго надашліце мне накладной платай на Дзямідаўскі ліцэй вось якія кнігі: 1.* **Leon Wasilewski. "Litwa i Bialorus"**. *2. Слоўнік польска-расейскі, не надта вялікі па Вашаму выбару. Па Васілеўскаму я і хачу вучыцца. Маю надзею, што за лета здолею такі яго пра чытаць. Калі ёсьць польская граматыка на расейскай мове, таксама не занадта вялікая, дык надашліце й яе. Заўтра пры муся за Скарыну або за расказікі. Гэтымі днямі надышлю ў «Нашу ніву» колькі новых вершаў. Што да Скарыны, дык вось якая рэч: я напісаў апрыч яго ўласнай біяграфіі асобны раздзел, дзе падаў хара ктарыстыку папярэдняга беларускага культурнага жыцця і пісьменнасьці. Але гэты разьдзел заняў столькі-ж месца, як і сам Скарына. Здаецца, занадта. А між тым гэты разьдзел удаўся. Што рабіць— скараціць ці не? Кланяюся ўсім.*

*М.Багдановіч.*

*23 мая 1914 г.» —*

Да сканчэньня экзаменаў заставаліся лічаныя дні. На нейкі час Максім пагрузіўся ў ліцэйскія клопаты і перастаў заходзіць у рэдакцыю. Але нечакана «Го лос» нагадаў аб сабе.

...Максім вяртаўся зь ліцыю. Толькі што ён лёгка і хутка здаў экзамен і таму вырашыў прайсьціся па набережнай Волгі. У парку ля Стрэлкі, месца, дзе Котрасьль упадае ў магутную Волгу, ён прысеў на лаўку. Дзень быў сонечны, прыгожы. Ні думаць, ні рабіць нічога не хацелася. Прыемна дмуў ветрык, граючы з газэтай, якую нехта выпадкова пакінуў на лаўцы. Гэта быў 123 нумар «Голоса». Максім ня мог не праглядзець

яго. Ён бегла перачытаў перадавіцу, апошнія навіны, потым разгарнуў «Голос» і не паверыў сваім вачам. У самым цэнтры стаяла: «Максим Богданович. Вянок. Кніжка выбраных твораў» Гэта была другая рэцэнзія на яго зборнічак. Газэта «Наша ніва» зьмясьціла крытычны артыкул на ягоны «Вянок». Максім не пакрыўдзіўся, але напісаў верш «Пану... на спамін ад аўтара:

*Дзень добры, пане! Вось Вам просты*
*надпіс:*
*Ёсьць гэткая японская забаўка,—*
*Кідаюць дробныя аскёпкі дрэва*
*Ў ваду—і робяцца яны цьвятамі.*
*Ўсё гэта мне згадалась мімаволі,*
*Калі чытаў я Вашую стацьцю*
*Аб вершыках «Вянка». І шлю падзяку*
*І цісну руку. Ваш М.Багдановіч.*

Зараз прад Максімам новая рэцэнзія. Няўжо -ж таксама ў ёй будуць крытыкаваць яго. На адзіным дыханьні Максім прачытаў яе:

*«Лежащая перед нами книга стихов на белорусском наречии иллюстрирует стремление белорусской интеллигенции к «национальному» подёму, если можно вообще говорить о белорусской литературе. Вместе с тем ясно стремление вдвинуть область белорусского творчества в общее русло литературы.*

*Автор рецензируемой книжки не ограничивает себя узким кругом «народных» сюжетов, как это наблюдалось до сих пор в Белоруссии. Как по сюжетам, так и по обработке стихи г.Богдановича ничего «народного» не заключают, если не принимать во внимание простоты его произведений. Несомненно, это произведения — продукт общей «интеллигентской» литературы, и рассчитаны они, повидимому, не на простого читателя: книжка пестрит иностранными эпиграфами. Не беремся судить насколь стихи г. Богдановича связаны с «народной» психологией белоруса, но такие стихотворения, как «Слуцкія ткачыхі», являются безусловно откликом народной души. Эти чудесные стихи даже для человека незнакомого с белорусским диалектом, открывают истинную красоту выражения на таком казалось бы грубом и неподдающемся наречии. Прекрасно передано настроение «бездольных» ткачих взятых на панский двор «ткаць залатые паясы». За стеной «смеется поле», сияет небо за окном, а они сидят и ткут, переживая за станком родные впечатления «ясных далей», синеющих «милыми васильками».*

*Цямнее край зубчаты бора...*
*І тчэ, забыўшыся рука,*
*Заміж персідскага ўзора*
*Цьвяток радзімы васілька.»*



Максім скончыў чытаць. У яго роднай Беларусі зараз расьцітала вясна. І таму ягоныя думкі мкнуліся мімаволі на Бацькаўшчыну, туды, дзе «блішча збожжа ў яснай далі, Сінеюць міла васількі, Халодным срэбрам зьзяюць хвалі Між гор ліючайся ракі...» Максім душою быў там.

А над Яраславіяй плыў абедзены звон. Нізкім басам сьпяваў сабор Усьпеньня над Стрэлкаю. Звонка, пранізьліва гучалі званы храма Ільлі Прарока. Аднекуль здалёк даносіўся гук Толгінаўскага манастыра. І над усёй гэтай чыстай празрыстай вясёлкай гукаў плыў адзіны звон, ад якога шчаміла сэрца. Плакала званіца былога Спасаўскага манастыра. І ў гэтым трывожным гуку, чуўся жалобны, сумны плач труб яго роднай Гародні. Плакаць званам было чаго. Хоць газэты аб гэтым і не пісалі, але пах пораху першай сусветнай вайны ўжо вісеў у паветры. Званы прадчувалі яе. І таму плакалі.





# Ідуць жаўнеры Беларусы



Словы і музыка
Пётры Звоннага

Аранжыроўка
Аўгена Мэгаліфа



Ідуць жаўнеры Беларусы праз вёскі, сёлы, гарады,
Пераламаць усе прымусы, што нас гнялі вякі-гады.
Няхай больш ворагі ня сьмеюць сваю нам волю накідаць,—
Сьцягі Пагоні ўжо ясьнеюць, іх рукі моцныя дзяржаць.

Зь іх не адзін у вёсцы роднай пакінуў любую сваю.
Яе пагляд ў начы халоднай яму прыпомніцца ў баю.
Як птушка думка ўдаль нясецца, дзе хата родная, дзе плуг,
І ён бясстрашна ўперад рвецца, каб біць бандытаў — валацуг.

Ідуць жаўнеры і сьпяваюць, дзяўчатам сэрцы б'юць мацней.
Праменьні сонца ў зброі зьзяюць, калёны йдуць далей, далей,
А песьня рвецца над палямі— вон, гадаўё, з нашай зямлі!
Вы нашу кроў пілі гадамі, хопіць, вы век свай аджылі

Ідуць жаўнеры Беларусы праз вёскі, сёлы гарады,
Пераламаць усе прымусы, што нас гнялі вякі-гады.
Сьцяг бел-чырвона-белы вольны ў сэрцы кожнага із іх.
Жаўнер Краёвай Абароны на варце стаў правоў сваіх.

Голас

Ф-на

*f*







## На дапамогу пацярпелым ад Чарнобыля

пайшлі сродкі ад канцэрта, які быў арганізаваны Камітэтам Дапамогі Ахвярам Чарнобыля Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў Брокліне, Нью-Ёрк. Ён адбыўся 27 кастрычніка.

На сьв. Літургіі і на канцэрце прысутнічалі міністр замежных справаў Рэспублікі Беларусь Пётр Краўчанка, шэф беларускай місіі ў ААН Генадзь Бураўкін з жонкай Юліяй Бураўкінай і дачкой Сьвятланай, пастар Пол Мур зь жонкай Шарон. Падчас абеду Пётр Краўчанка, Пол Мур, Генадзь Бураўкін выказалі надзею, што толькі ўсе разам мы зможам прыпыніць наступства Чарнобыльскай катастрофы.

Чарнобыльская тэма стала лейтматывам канцэрта, які падрыхтавалі Рыма Маленчанка, Валянтына Пархоменка і Алесь Казак. Таксама ў ім прынялі ўдзел сп-я Шарон Мур, Волечка Казак, Лілія Дворжэц, Раман Унукаў і Уладзімер Бучэль. На заканчэньне канцэрта ўсе артысты і госьці выканалі сумесна песьню, напісаную Барысам Данілюком «Пачуй, о ласкавая Маці».

## Вас завуць каралевай сьмеху,



Бачу Вас каралевай смутку, Ганна Рыжкова.
Не дае Вам спакою роднае слова,
Вы да сэрца яго прытуляеце...



Гэтыя словы менская паэтэса Неллі Тулупава прысьвяціла шчырай захавальніцы роднага слова актрысе Ганне Рыжковай. Пра гэтую таленавітую жанчыну, якая столькі гадоў аддала прапагандзе беларускай мовы, можна расказваць бясконца. Яе, такі пяшчотны, мацярынскі, багаты, як і мова нашая на розныя адценьні і пачуцьці, голас, гучаў па радыё і выхоўваў не адно пакаленьне беларусаў. Ён гучаў у часы, калі беларуская мова была амаль што забароненая, калі ў афіцыйных колах хадзіла выслоўе: «Некому этот белорусский язык не нужен, разве только Рыжковай».

Сапраўды, мова патрэбна была Ганне Рыжковай як вада, як хлеб. Гэтак сама, як і Ганна была патрэбна сваім слухачам. У гэтым упэўніліся ўсе, хто прыехаў на канцэрт Ганны Рыжковай, які адбыўся 16 лістапада ў Саўт-Рыверы. Адным зь яго арганізатараў была даўняя, з часоў вучобы у Рэспубліканскім мастацкім вучылішчы , сяброўка Ганны Ірына Цупрык. Можна сказаць, дзякуючы ёй і адбылася гэтая сустрэча саўтрыверцаў з актрысай. Як расказвала сама сп-я Цупрык, год назад яна даведалася, што Ганна жыве ў Менску, дазналася яе адрас і запрасіла да сябе ў госьці. Так Ганна Рыжкова й апынулася ў Саўт-Рыверы.

Так і адбыўся гэты цудоўны канцэрт, поўны смеху і сьлёз радасьці. Ганна Рыжкова чытала клясіку беларускай літаратуры і сучасных паэтаў. Чытала з натхненьнем, зь вялікай любоўю да слухачоў, чытала, як і заўсёды чытае. Разам з Ганнай Рыжковай выступалі ў гэты дзень Валянтына Пархоменка і Алесь Казак. Яны праспявалі вянок зь беларускіх, украінскіх і расейскіх песьняў.

# Упершыню

адбылася на «Полацку» рыбная вячэра. 9 лістапада кліўлендцы сабраліся на агульную трапезу, якую прыгатавалі Лідзія Лазар-Ханенка, Марыя і Крыстына Каваленкі, Валянтына Гай і інш. Акрамя смажанай рыбы ўсе маглі пачаставацца варэнікамі, якія на працягу многіх гадоў штотыдня робяць прыхажанкі царквы Жыровіцкае Божае маці.



у вялікай новай залі «Полацка» адбывалася сьвяткаваньне традыцыйнага амэрыканскага сьвята —Дня ўдзячнасьці. 24 лістапада пасьля сьв. Літургіі быў абед, які арганізаваў царкоўны камітэт. У сваёй прамове яго старшыня Сяргей Карніловіч прывітаў сабраўшыхся, а таксама выказаў падзяку жанчынам, якія прыгатавалі традыцыйны абед: фаршыраванага індыка, журавінавае жале, беларускую і індыянскую салодкую бульбу.

# Нашыя госьці

Хаця летні сэзон адпачынкаў даўна скончыўся, госьці працягваюць ехаць у Кліўленд. У кастрычніку-лістападзе да кліўлендцаў завіталі сваякі Кастуся Калошы Раіса Калоша з в. Нагорная Баранавіцкага р-на і Кастусь Суднік з Баранавіч, а таксама прадстаўнік фірмы «МіО» Віктар Асіпенка зь Менску.

Братавая сп. Калошы сп-я Раіса і швагер сп. Кастусь прыехалі ў Амэрыку, як кажуць, па гарачых сьлядах, дзяцей, якія сёлета гасьцілі ў дзядзькі Кастуся. Як і ўсе людзі, якія ніколі не адрываліся ад роднай зямлі, яны не маглі сядзець у хаце бяз працы. Абодва ўвесь час нешта рабілі на «Полацку», а таксама разам з прыхажанкамі царквы гатавалі варэнікі: з бульбай, капустай, тварагом.

Віктар Асіпенка, таксама не губляў часу. За картокі час побыту ў Кліўлендзе, ён пабываў на прадпрыемстве Анатоля Лукьянчыка, пазнаёміўся з таварамі мясцовай прамысловасьці. 21 лістапада ў царкве Жыровіцкае Божае маці адбылася сустрэча Віктара Асіпенкі з кліўлендцамі. Размова ішла пра бізнэс, пра стварэньне сумесных беларуска-амэрыканскіх прадпрыемстваў і мажлівасьцях выхаду Беларусі на міжнародны рынак.

***Рэдакцыя часопіса «Полацак» віншуе Вольгу й Астапа Яраховічаў з жанімствам іх сына Данілы. Зычым Данілу й ягонай жонцы Приселе ўсяго самага найлепшага: здароўя, шчасьця, каханьня ды, як казалі ў старыя часы, долечкі добрай.***



